

Камбайнавая ўборка збожжа.
Фото І. Пікмана.



**Піонеры лагера «Лясная казка» Ваўкавыскага раёна на прывале ў час паходу.** (Гл. матэрыял на 12-й старонцы.)

Фото А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.**

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання II.
**№ 8(17).**
**Жнівень.**
**1954.**

# На родных палях

Большасць сыноў і дачок калгаснікаў сельскагаспадарчай арцелі «Комінтэрн» Магілёўскага раёна пасля заканчэння сямігодкі застаецца працаваць у калгасе. Рэдакцыя часопіса «Маладосць» папрасіла трох маладых калгаснікаў расказаць чытачам аб сваіх планах на будучае. Ніжэй друкуюцца іх выступленні.

## КАЛГАСНЫ ХЛЕБАРОБ — ГЭТА ГУЧЫЦЬ ГОРДА!

Непадалёку ад нашай брыгады знаходзіцца самае высокае ў калгасе месца. Адсюль добра відаць усе калгасныя палі. На поўночным усходзе квітнеюць прыдняпроўскія лугі, на поўднёвым захадзе — палеткі жыта, пшаніцы, ячменю. Сярод мора збажыны то тут то там чырванеюць чарапічныя дахі жывёлагадоўчых пабудоў. Ледзь відаць з зеляніны садоў хаты калгаснікаў. Гэта наш калгас «Комінтэрн».

Люба выйсці летам у поле. Добры ўраджай паспеў там. Прыемна адчуваць, што ва ўсім гэтым ёсць частка і тваёй працы.

Неяк пасля таго, як я закончыла сямігодку, на вуліцы мяне сустрэлі пасялковыя дзяўчаты. Прозвішчы іх я не называю, бо ведаю, ім цяпер самім сорамна за свае словы.

— Гэта праўда, — спыталіся яны, — што ты застаешся пасля сямігодкі ў калгасе?

— Праўда, — кажу я ім.



— Ці варта тады было заканчваць сем класаў. Пайшла-б у горад, набыла-б добрую прафесію.

— А чым дрэнная прафесія хлебароба? — адказала я дзяўчатам. — Калгасны хлебароб — таксама гучыць вельмі горда.

Гэта і сапраўды так. Мы, калгаснікі, вырошчваем хлеб, гародніну, садавіну, гадуем кароў, авечак, свіней, якія даюць малако, поўсць, мяса. Калі-б мы дрэнна працавалі, дык рабочы клас, служачыя адчувалі-б недахоп у прадуктах, а гэта значыць, не маглі-б і самі прадукцыйна працаваць. Я вельмі ганаруся тым, што разам з тысячамі калгаснікаў ствараю багацце сельскагаспадарчых прадуктаў у краіне.

З другога боку, час адкінуць прэч думку аб тым, быццам у калгасе можна працаваць, не маючы асветы. Цяпер без ведаў і кроку ступіць нельга. Чаму, напрыклад, свінарка Соф'я Феськова дабілася выдатных поспехаў у сваёй рабоце? Таму, што яна таксама, як і я, закончыла сямігодку і пайшла працаваць на ферму. Соня чытае многа кніг па заатэхніцы, павышае сваю кваліфікацыю. Усякую работу на ферме яна праводзіць свядома, у адпаведнасці з патрабаваннямі навукі. Соня чытае і мастацкую літаратуру. Зайдзіце да яе ў хату. На стале ляжаць кнігі Віліса Лацыса, В. Маякоўскага, М. Салтыкова-Шчэдрына, Б. Палявога.

Вельмі патрэбны веды і нам, работнікам паляводчых брыгад. Вось, напрыклад, сёлета год быў не вельмі добры: вясна засушлівая, халодная і лета без дажджоў, але гэта не адбілася на ўраджаі, бо мы і сяўбу і догляд пасеваў праводзілі строга па-навуковаму.

Людзей, якія закончылі сямігодку і засталіся працаваць у калгасе, у нас вельмі многа. Усе яны старанна працуюць на палях. Многія з іх ужо вылучаны на кіруючыя работы.

**Тамара ШАЎЦОВА.**

## ЧАМУ Я ЗАСТАЎСЯ ПРАЦАВАЦЬ У КАЛГАСЕ

Пасля таго, як закончыў восем класаў, я пайшоў вучыцца ў горад на курсы майстроў чыгуначнага транспарту. Закончыў курсы добра і пачаў працаваць на чыгунцы. Магчыма, што я ніколі і не пакідаў-бы гэтую працу, каб не адзін выпадак. Аднойчы я прыехаў дадому і сустрэў старшыню калгаса Ілью Васільевіча Сяргеева. Ён мне паказаў калгасную гаспадарку, расказаў, як калгаснікі дамагліся такіх выдатных поспехаў. Мне было вельмі сорамна, што ўсё гэта рабілася без майго



ўдзелу (я-ж вырас і атрымаў адукацыю ў сваім калгасе). А пасля таго, як Ілья Васільевіч сказаў, што ў калгасе ўсё яшчэ нехапае спецыялістаў, людзей з сярэдняй адукацыяй, я цвёрда вырашыў: буду працаваць у калгасе.

На транспарце мне лёгка знайшлі замену.

Праўленне калгаса паставіла мяне электраманцёрам. Я праводзіў электрыфікацыю і радыёфікацыю калгаса, а цяпер кірую калгасным млыном.

Калгасу вельмі патрэбны адукаваныя людзі. Сапсаваўся, напрыклад, матор: на заводзе выклікаў-бы тэхніка і ён адрамантаваў-бы яго. У калгасе-ж усё патрэбна зрабіць самому. А без ведання фізікі гэта немагчыма. Я адразу-ж адчуў, што тых ведаў, якія ў мяне ёсць, тут нехапае. Таму я паступіў у дзевяты клас вячэрняй школы і вясной закончыў яго. Сёлета буду вучыцца ў дзесятым класе. Потым завочна закончу інстытут, але ніколі не пакіну калгас. Работа тут вельмі цікавая, і заработак мой добры.

**Уладзімір СІМАНЬКОЎ.**

## КАБ БАГАЦЕЎ КАЛГАС

Чатары гады назад пяць дробных калгасаў Краснапольскага сельсовета Магілёўскага раёна аб'ядналіся ў адну сельскагаспадарчую арцель «Комінтэрн». Калгас аб'ядноўвае 612 двароў. Ён мае 2 992 гектары зямлі. У калгасе пабудаваны тыповыя будынкі для жывёлы, зернесушылкі. Калгас электрыфікаваны і радыёфікаваны. Ёсць свой вадаправод, лазні. Гаспадарка калгаса вялікая і складаная. Гэта сапраўдная фабрыка хлеба, малака, мяса. Працаваць на такой гаспадарцы вельмі прыемна.

Пасля ўзбуйнення калгаса вырасла механізацыя, якая патрабуе вопытных, пісьменных людзей. Адна справа навучыць спецыяльнасці чалавека з чатырма класамі адукацыі, другая — з сямігадовай або дзесяцігадовай адукацыяй. Чым больш пісьменны чалавек, тым ён хутчэй авалодае спецыяльнасцю. Помню, быў такі выпадак. Калгаснаму садоўніку Аляксею Кузьмічу Кавалёву патрэбна было правесці акуліроўку некалькіх тысяч пладовых дрэў. Аднаму яму зрабіць гэта было не пад сілу. Тады праўленне сабрала пісьменных хлопцаў і дзяўчат, якія ў школе праходзілі батаніку, і калгасны садоўнік павёў іх у лес, каб навучыць рабіць прышчэпы. За два дні моладзь авалодала новай справай і прыступіла да работы ў садзе. Дарэмна Аляксей Кузьміч хваляваўся, дрэвы вельмі добра прыжыліся. Поспех маладых садоўнікаў тлумачыцца тым, што ўсе яны да гэтага мелі ўжо тэарэтычную падрыхтоўку.

Кожнаму калгасу цяпер патрэбны пісьменныя людзі. Нам, жыхарам калгаса «Комінтэрн», незразумела, як гэта ў другіх калгасах брыгадзірамі, уlлікамі, загадчыкамі ферм працуюць людзі з пачатковай адукацыяй. Няўжо там няма калгаснікаў, якія закончылі сем або дзесяць класаў сярэдняй школы? Хіба працаваць брыгадзірам ці загадчыкам фермы менш пачэсна, чым сядзець сакратаром у прыёмнай? Брыгадзір у нашым калгасе — гэта кіраўнік вялікай гаспадаркі, не менш складаный, чым цэх на любой магілёўскай фабрыцы.



У суседніх калгасах гавораць, што нашу моладзь не выгнаў-бы з калгаса ў горад. Гэта так. Мы вельмі любім свой калгас, робім усё для таго, каб ён стаў багатым. Таму мы пасля заканчэння школы засталіся ў сваім калгасе. Але гэта не значыць, што мы не прадаўжаем сваю вучобу. Большасць нашай моладзі вучыцца ў вячэрняй школе. Многія — у завочных тэхнікумах і інстытутах.

**Марыя КУЛІКОВА.**



Павільён Беларускай ССР.

# УСЕСАЮЗНАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ВЫСТАЎКА

1 жніўня ў Маскве адкрылася Ўсесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка. Адкрыццё выстаўкі з'явілася выдатнай падзеяй у жыцці савецкага народа. Па велічыні тэрыторыі, па колькасці і афармленню павільёнаў, па ліку ўдзельнікаў выстаўка не мае сабе роўных у свеце.

Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка дэманструе велізарныя поспехі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. 76 павільёнаў, 232 спецыяльныя збудаванні, сады, сажалкі — усё гэта паказвае вялікія заваяванні калгасаў, соўгасаў, машынна-трактарных станцый, навукова-даследчых устаноў. Выстаўка з'яўляецца сапраўднай школай перадавога вопыту для мільёнаў хлебаробаў нашай краіны.

Удзельнікамі выстаўкі зацверджаны многія калгасы, соўгасы і сотні перадавікоў сельскай гаспадаркі нашай рэспублікі. Яны паказваюць дасягненні Беларускай ССР ва ўздыме сельскай гаспадаркі ў пасляваенны час.



Павільён механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі СССР.



Павільён «Сібір».
Фото Н. Грапоўскага. (Фотахроніка ТАСС.)

# НЕСПАКОЙНАЕ СЭРЦА

У прасторнай, на чатыры акны, хаце Патапавых было поўна моладзі. Час-ад-часу чулася то паспешлівае пытанне, то падбадзёрваючае слова.

— Ну, а далей?

—А што ты адказала?

— Правільна!

— Гэта так.

Расказвала дачка Патапавых, калгасная свінарка, якая толькі што прыехала з Мінска, са з'езда комсамола. Не паспела яна зайсці ў хату, як на двары пачуліся галасы сяброВак, якія прышлі распытаць пра сталічныя навіны.

— Вы хоць-бы далі ёй паесці, — прасіла кацiна маці.

— Не церпіцца, цётка, даведацца, як там усё было, —адказвалі дзяўчаты і тут-жа вясёлай гурбой зашлі ў хату.

Каця расказала ім пра Мінск, пра выступленні дэлегатаў, пра тое, як яна вырашыла ўзяць на сябе высокія абавязацельствы.

— Паслухала я, як у другіх калгасах працуюць, і думаю: а чым мы горшыя? Вось тады і дала я слова атрымаць ад кожнай свінаматкі не менш чым па 22 парасяці і не менш дваццаці — па ўсёй ферме. За вас, дзяўчаты, слова дала... Можа няправільна зрабіла? Папраўце тады.

— Правільна, правільна, — хорам адказалі дзяўчаты, а Каця ўсміхнулася шчырай, цёплай усмешкай.

Патапава адной з першых прышла працаваць на ферму. Увесь час яна з вялікай адказнасцю адносіцца да работы, старанна вывучае зоатэхніку.

Аднаго разу захварэлі свінні. Загадчык фермы хацеў адразу-ж паслаць па ветэрынара ў раённую лячэбніцу.

— Пакуль ён прыедзе ды пакуль мы прывязем медыкаменты, пройдзе шмат часу. Добра было-б, каб ветэрынар адразу-ж прывёз усё, што трэба, — сказала Каця загадчыку фермы.

— Але-ж мы не ведаем, якая ў свіней хвароба.

— Паспрабуем даведацца,—адказала Каця.

Яна ўважліва агледзела сваіх пацыентаў, сама паставіла дыягназ.

Ветэрынар, які неўзабаве прыехаў з медыкаментамі, здзівіўся:

— Як вы вызначылі дыягназ? — запытаўся ён.

— А я даўно вывучаю захворванні свіней. Цяпер без гэтага нам немагчыма працаваць.



Каця Патапава навучыла стараннай працы ўсіх маладых свінарак. Яшчэ на золаку пачынаюць яны работу на ферме: рыхтуюць корм, пояць парасят, прыбіраюць станкі. Асаблівую ўвагу дзяўчаты звяртаюць на адкорм свіней. Яны паставілі перад сабой задачу атрымаць на кожныя 100 гектараў ворыўнай зямлі па 17 цэнтнераў свініны.

За апошнія два гады свінаферма калгаса стала прыносіць даходы. Ды яно і не дзіўна: летась 55 свінаматак далі 880 парасят. А Каця Патапава ад 9 свінаматак атрымала па 19 парасят. Сёлета ў Каці яшчэ лепшыя поспехі. Яна цвёрда трымае сваё слова, якое дала на з'ездзе комсамола.

Хутка пасля таго Каця з'явілася ў праўленне калгаса і паклала перад старшынёй аркуш паперы.

— Што гэта?

— Тут указаны мерапрыемствы, якія праўленне павінна правесці на нашай ферме.

Старшыня пачаў чытаць. У спісе стаяла: будаўніцтва кормакухні, падвеснай дарогі, кормазапарніка, вадаправода, лабараторыі...

— Глыбока бярэш!.. — сказаў старшыня.

— Без гэтага зараз нельга працаваць.

— Неспакойнае ў цябе сэрца, Кацярына, — усміхнуўся старшыня. — Але добрае. Пабольш-бы нам такіх работніц.

**Шклоўскі раён.**

**Л. КОВАЛЬ.**




# На абуджанай зямлі




Уладзімір ЛУПЕЙКА

Фотарэпартаж
з цалінных зямель.



На прадвесні ў Казахстан на цалінныя землі паехалі сотні беларускіх комсамольцаў. Комсамольцы вельмі здзіўляліся таму, што тут можна ехаць дзесяць, дваццаць, трыццаць кілометраў і нідзе не ўбачыш узаранай зямлі. Як акінуць вокам, ляжыць някрануты стэп. Па ім то тут, то там пасвяцца атары авечак.

— Прыдзецца нямала папрацаваць, каб зашумелі палі буйным коласам, — гаварыў сваім сябрам Фёдар Каўкоў, былы трактарыст Бялыніцкай МТС. І вось ён ужо вядзе свой трактарны агрэгат па землях соўгаса імя Амангельды Карасускага раёна Кустанайскай вобласці (здымак уверсе).

Разам з Фёдарам працуе Сяргей Белабровік. Раней ён працаваў у Рудзенскай МТС. У дзень, калі яго фатаграфаваў фотакарэспандэнт, ён перавыканаў норму ў паўтара раза (здымак злева).

Шліфоўшчык трактарнага завода Іван Валочка працуе ў Сулукульскім соўгасе Кустанайскай вобласці прычэпшчыкам у трактарнай брыгадзе імя XVIII з'езда комсамола Беларусі. Іван рыхтуецца стаць трактарыстам. У вольны час ён вывучае трактарную справу (здымак справа).

Спачатку было нялёгка. Не было жылля, разабраныя ляжалі плугі. Але комсамольцы не разгубіліся. За кароткі час былі





**Рабочаму Дзіеўскага соўгаса Кустанайскай вобласці Шоіну Тасбулатаву шэсцьдзесят гадоў. Трактарыст Сяргей Шарамет у тры разы маладзейшы за яго. Але стары казахскі рабочы і комсамолец-механізатар, які прыехаў з Беларусі, — вялікія сябры.**

**— Добра працавалі мы сёння, а заўтра трэба яшчэ лепш! — гавораць яны адзін другому, зноў сустрэўшыся пасля рабочага дня.**

Фото В. Лупейкі.









**З Свяцілавіцкай МТС Гомельскай вобласці на цалінныя землі выехалі тры браты — брыгадзір трактарнай брыгады Іван, трактарыст Пётр і шафёр Міхаіл Халюковы.**

На здымку: **браты-механізатары Пётр, Іван і Міхаіл Халюковы.**

**Палявы стан трактарнай брыгады імя XVIII з'езда комсамола Беларусі ў соўгасе «Сулукульскі». Учотчыца брыгады, былая кантралёр АТК Мінскага мотавелазавода Тэрэза Карповіч заносіць на дошку паказчыкаў зменную норму выпрацоўкі трактарыстаў.**

**Брыгадзір трактарнай брыгады імя XVIII з'езда комсамола Беларусі, былы слесар Мінскага трактарнага завода Уладзімір Прылуцкі на соўгасным полі.**

Фото В. Лупейкі.









сабраны трактарныя плугі, адрамантаваны трактары. Уверсе злева вы бачыце зборку плугоў у соўгасе «Джамбульскі». Кіруе работай Генадзі Гуляеў (злева)

— Дзе-ж мы будзем жыць? — пыталіся комсамольцы.

— Спачатку ў палатках, а потым пабудуеце дамы, — адказвалі ім старажылы.

І вось у соўгас «Джамбульскі» прыбыў першы эшалон са зборнымі дамамі. Прышлося стварыць спецыяльную будаўнічую брыгаду. Члены брыгады вельмі хутка авалодалі не толькі зборкай дамоў, але і кладкай сцен з самана. На здымках унізе адлюстравана дзейнасць гэтай брыгады. Цяпер комсамольцы-навасёлы жывуць у светлых драўляных дамах, а тэхніка стаіць пад навесамі і ў гаражах.

На XVIII з'ездзе комсамола БССР ад імя ад'язджаючых на цалінныя землі з гарачай прамовай выступіла работніца ліцейнага цэха Мінскага аўтазавода Тамара Кузняцова. Як-жа яна жыве цяпер? Тамара вельмі задаволена сваім жыццём. Яна лепшая трактарыстка брыгады імя XVIII з'езда комсамола Беларусі. На яе рахунку сотні гектараў узаранай цаліны, а гэта — тысячы пудоў пшаніцы.

— Быць на пярэднім краі барацьбы за хлеб, — гаворыць Тамара, — не толькі пачэсна, але і вельмі прыемна.

На здымку ўверсе — Тамара Кузняцова.









Елена Дзятлава прыехала ў соўгас «Джамбульскі» з Віцебскай фабрыкі «КІМ», шафёр Сяргей Завялаў — з Гомеля. На веснавым ворыве Елена працавала прычэпшчыцай, а Сяргей па-ранейшаму вадзіў аўтамашыну. Сяргею вельмі спадабалася рухавая, вясёлая прыцэпшчыца, і Елена пакахала стараннага, гаспадарлівага шафёра. Неўзабаве яны сталі мужам і жонкай. Іх вяселле было першым, якое спраўлялі пасланцы Беларусі на цалінных землях.

— Доўга не баўся там, — гаворыць свайму мужу Елена, адпраўляючы яго ў дарогу (здымак уверсе злева).

Комсамольцы ўсю вясну і лета жывуць у палявым стане. Там яны і адпачываюць, і харчуюцца. Брыгада імя XVIII з'езда комсамола Беларусі мае ў сваім стане дапаможную гаспадарку. Ёсць у брыгадзе свае каровы, авечкі. Даглядае іх кухар брыгады Святлана Ерамеева. Раней Святлана працавала ва ўпраўленні Беларускай чыгункі. На здымку: Святлана са сваёй гадаванкай.

У трактарную брыгаду імя XVIII з'езда комсамола Беларусі прыехаў дырэктар соўгаса «Сулукульскі» Абдула Халіулін (стаіць справа). Дырэктар вельмі задаволены работай брыгады.

Работа кухара ганаровая. Калі людзі добра накормлены, дык яны добра і працуюць. Вось чаму кухарамі працуюць лепшыя комсамольцы, такія, як Барыс Хаірулін з соўгаса «Джамбульскі» (здымак унізе справа).









На гэтай старонцы расказваецца пра тое, як адпачываюць работнікі трактарных брыгад. Палявы стан трактарнай брыгады соўгаса імя Амангельды. Механізатары слухаюць Маскву.

У стэпе працякаў маленькі ручай. Беларускія комсамольцы вырашылі пабудаваць на ім плаціну. Сказана — зроблена. І вось плаціна гатова. Прыемна пасля работы пакупацца ў чыстай вадзе.

Аматары палявання вольны час праводзяць у стэпе. Тут многа рознай дзічыны. На здымку былы работнік Мінскага радыёзавода, цяпер трактарыст трактарнай брыгады «Совецкая Беларусь» соўгаса Дзіеўскі, комсамолец Аляксей Шляхта на паляванні.

Комсамольцы Беларусі заваявалі на цалінных землях трывалы аўтарытэт старанных,









добрых работнікаў. Мясцовыя жыхары, кіраўніцтва соўгасаў, партыйныя і комсамольскія кіраўнікі з павагай гавораць аб беларускіх комсамольцах. Задаволены і комсамольцы. Работа ў іх цікавая і заработак добры.

Б. ГЛІКІН, Г. РАЗІНСКІ

# СЯБРЫ

**Нарыс**

I

Леанід Фурын сядзеў над чарцяжом, калі да яго данёсся незнаёмы голас:

— Вучыцеся, малады чалавек?

Токар азірнуўся. Побач з майстрам Іванам Афанасьевічам Дывенем стаяў яшчэ даволі малады чалавек у цёмнасінім касцюме. «Кулагін», — здагадаўся Леанід. На заводзе імя Кірава ў гэтыя дні ўсе ведалі, што ў Гомель прыехаў вядомы токар, лаўрэат Сталінскай прэміі Барыс Іванавіч Кулагін і што не сёння-заўтра ён можа наведаць завод.

Прыезд Кулагіна выклікаў у кавальска-нарыхтоўчым, як і ў іншых цэхах завода, шмат размоў. Усім хацелася паказаць сталічнаму госцю, што скорасная апрацоўка металу — таксама не навінка для гомельскіх станочнікаў. Была такая думка і ў Леаніда Фурына. А зараз, калі Кулагін, гледзячы на чарцёж, стаяў побач з Леанідам, малады токар зусім разгубіўся. Гэта быў даволі сур'ёзны экзамен, бо дэталь, якую яму трэба было вытачыць, была хоць і не вельмі складанай, але новай. Не здарма-ж Іван Афанасьевіч Дывень прывёў Кулагіна да яго, Фурына...

— Колькі-ж часу вам спатрэбіцца, каб выканаць заказ? — пацікавіўся госць, пераводзячы позірк з горкі акуратна складзеных загатовак на скуластага, быстравокага хлапца ў чорным камбінезоне.

— Паўтары змены. Заўтра да абедзеннага перапынку валікі будуць гатовы! — выпаліў Фурын скарагаворкай. Заўважыўшы ледзь прыкметную ўсмешку майстра Дывеня і падбадзёраны ёю, ён дадаў: — Будуць гатовы, Барыс Іванавіч!

— Гэта будзе нядрэнна, — Кулагін зрабіў некалькі крокаў і прыпыніўся: — будзе нават вельмі добра, таварыш Фурын.

Госць пайшоў далей, мусіць, у другія цэхі.

Леанід замацаваў першую загатоўку і ўключыў станок. З-пад разца з шыпеннем, звіваючыся ў спіраль, пайшла сіняватая стружка. Іржавая загатоўка хутка набывала форму валіка — дэталі стругальнага станка.

З кожным новым валікам работа ўсё больш ладзілася ў руках маладога токара. Да перапынку ён, узбуджаны і здзіўлены, налічыў 34 гатовыя дэталі. Заставалася 37 загатовак, а ўперадзе было яшчэ цэлых чатыры гадзіны. Значыць, калі пастарацца, можна будзе не за паўтары, а за адну змену выканаць заказ!

У хвіліны душэўнай узбуджанасці Леаніду заўсёды ўспаміналася мінулае. Былі ў яго няўдачы, былі і поспехі.

1943 год. Трынаццацігадовым хлапчуком паступіў Леанід вучнем токара ў цэх і хутка атрымаў трэці разрад. Працаваць трэба было вельмі многа.

Недалёка ад завода размяшчаўся ваенны шпіталь. Аднойчы, калі Леанід стомлены вяртаўся дамоў, яго затрымаў пажылы чалавек у шпітальным шэрым халаце, з хваравіта-жоўтым тварам.

— Сядай, хлопчык, сядай, — запрашаючы Леаніда пасядзець з ім на лаўцы, сказаў ён ціхім голасам. Леанід сеў і адразу заўважыў, што адзін рукаў халата быў пусты.— З работы, мусіць, ідзеш?— спытаў ранены.

— Так. З прыборабудаўнічага.

— Бацька на фронце?

— Загінуў ён... Пад Ленінградам...

Доўга гутарыў тады Леанід з байцом-апалчэнцам, які сам шмат год працаваў майстрам на заводзе. Ранены ўважліва выслухаў нескладанае апавяданне хлопчыка:

— Я ўжо 260 дэталей у змену раблю. А майстар гаворыць — трэба трыста... Другія, бачыце, робяць... Дык яны-ж колькі гадоў працуюць! А я толькі трэці месяц...

Баец нахмурыў бровы і сказаў строгім голасам:

— Трэба зрабіць. Гэта для Радзімы, для твайго шчасця трэба, сынок, — дадаў ён ласкава і абняў хлопчыка сваёй адзінай рукой.

Шмат гадоў прайшло з таго часу. Але словы старога майстра-апалчэнца засталіся ў памяці.

Тады Леанід дамогся свайго: рабіў па 300 дэталей і нават больш. Многа з таго часу было такіх перамог. Таму Леанід адчуваў, што будзе поспех і на гэты раз. Галоўнае — моцна хацець...

Пасля змены пры выхадзе з цэха Леанід нечакана сустрэўся з Кулагіным.

— Усё зроблена, Барыс Іванавіч, — усклікнуў ён, узрадаваны.— Усё поўнасцю. 71 валік!

— Вось малайчына! — твар маскоўскага госця выказаў здзіўленне. — Хадзем, пакажы!

Увайшоўшы зноў у цэх, Кулагін кінуў позірк на роўны строй валікаў, якія ззялі яркім люстраным бляскам, узяў у рукі адну за другой некалькі дэталей.

— Нічога не скажаш, малады чалавек, — сказаў ён.—Гэта называецца — выдатна...

На заводскім двары рабочыя стаялі каля лістка «Маланкі», дзе вялікімі літарамі было напісана: «Токар Фурын выканаў зменную норму на 532 працэнты». Радасны і ўзбуджаны, Леанід хацеў падыйсці да знаёмых, але раптам пачуў:

— У нас, у механічным, работа тонкая, там гэтак не разгонішся.

Гэтыя словы моцна закранулі Леаніда: ён сам даўно прасіўся ў механічны цэх. Хацелася прыкласці рукі да больш сур'ёзнай і складанай работы. Але пакуль не пераводзяць. Да галоўнага інжынера звернешся, дык ён абавязкова дакажа, што кавальска-нарыхтоўчы цэх — самы галоўны на заводзе. «Заўтра-ж сур'ёзна пагавару з галоўным інжынерам», — вырашыў Фурын.

Але назаўтра ён нічога не сказаў галоўнаму інжынеру. Токар-скораснік рыхтаваў свайго першага вучня, таму ён зноў адклаў размову. Праз два месяцы, калі яго вучань Віктар Саракалетаў закончыў навучанне скорасному рэзанню, Фурын узяў абточаную Віктарам дэталь і ўрачыста паднёс яе галоўнаму інжынеру:

— Вось паглядзіце, Віктар Іванавіч.

— Нядрэнна. Будзе працаваць... А як у цябе справы?

— Самі ведаеце, даўно прасіў... Галоўны інжынер усміхнуўся.

— Ужо ёсць загад. З заўтрашняга дня пераходзіш у механічны цэх.

II

Фурын прышоў у механічны цэх разам з трыма маладымі токарамі: Адамам Ханецкім, Віктарам Кулаковым і Феліксам Шацавым. З Адамам Ханецкім ён сябраваў яшчэ ў кавальска-нарыхтоўчым цэху. Адам быў спакойным, знешне роўнадушным хлопцам, але ён добра разбіраўся у электратэхніцы, авіяцыі.

Часта сябры збіраліся ў Ханецкага дома, і Леанід падоўгу слухаў спакойныя апавяданні Адама.

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — здзіўляўся Фурын.

— Адкуль? — усміхаўся Ханецкі. — Кніжак хіба мала...

У цэху Фурына паставілі за такарна-вінтарэзны станок, на якім працаваў токар-скораснік Уладзімір Дзям'янчыкаў.

Як ні стараўся Фурын, новая работа ў яго не вельмі ладзілася, і яму прышлося вучыцца ў Дзям'янчыкава. Уладзімір адным з першых на заводзе прымяніў сілавы метад Васілія Колесава і ў гэтай справе меў значны вопыт. Леанід стаў пільна прыглядацца да работы Дзям'янчыкава. З цягам часу справа пайшла лепш. Выпрацоўка прыкметна ўзрастала і неўзабаве дасягнула двух норм. Гэта было ўжо блізка да паказчыкаў Уладзіміра. Але Фурын усё яшчэ не быў задаволены.

Вяртаючыся пасля змены дамоў, Леанід часта думаў аб сваёй рабоце, аб тым, што і ў механічным цэху можна за змену абтачыць больш дэталей, чым зараз, і дабіцца нават лепшых вынікаў, чым у Дзям'янчыкава.

Яшчэ ў кавальска-нарыхтоўчым цэху на апрацоўцы дыскаў для стругальных станкоў Фурын прымяніў разец з керамічнай пласцінкай. Тады гэтае ўдасканаленне павялічыла хуткасць рэзання больш чым у пяць разоў. Потым на апрацоўцы новай дэталі — ступенчатага вала — Леанід знайшоў новыя магчымасці павышэння прадукцыйнасці працы. Фурын добра памятае тыя дні. Па ўсёй краіне пранеслася вестка аб выдатнай прапанове токара Васілія Колесава. Услед за лепшымі токарамі завода і Леанід стаў укараняць сілавы метад і разец, прапанаваны Колесавым. Перад ім тады паўсталі дзве цяжкасці: трэба было прадухіліць прычыны, што перашкаджалі рабоце, — вібрацыю і нетрывалась разцоў.

Пасля шматлікіх эксперыментаў вібрацыю ўдалося пераадолець. Леанід замацоўваў загадзя пратачаны вал у дакладна выверany

**Майстар Іван Дывень (у цэнтры) расказвае аб вопыце сваёй работы.**

Фото Г. Разінскага.



патрон, замяніў рухомы цэнтр жорсткім,і вібрацыі — як не было. Здавалася, што цяпер разцы пры большых падачах павінны трымацца лепш. Але тут Фурына чакала няўдача. Адзін за другім былі зламаны два лепшыя разцы. З цяжкасцю стрымліваючы разгубленасць, ён замацаваў трэці разец.

Уключыўшы матор, Леанід падвёў новы разец да дэталі. «Няўжо і трэці не вытрымае?» — з трывогай падумаў ён.

— Не вытрымае, — як-бы ў адказ пачуў ён упэўнены голас Івана Афанасьевіча Дывеня. Майстар стаяў побач і ўважліва разглядаў зазубраную пласцінку першага разца. — Мне здаецца, — сказаў майстар, — што нам прыдзецца дапрацаваць канструкцыю гэтага разца. — І, падумаўшы, дадаў: — Бадай, вертыкальна размешчаная пласцінка будзе лепшай...

Смелая здагадка майстра-наватара бліскуча апраўдала сябе. Разцы, зробленыя ў заводскай лабараторыі па-новаму, вытрымалі падачу ў пяць разоў большую. Гэтыя выпрабаванні па даручэнню Дывеня праводзіў Леанід. І ўжо на наступны дзень, прымяніўшы разец з вертыкальнай пласцінкай, Фурын зрабіў 40 дэталей, а не 16, як раней.

Але і пасля гэтага няўрымслівы Фурын удасканальваў сваё майстэрства. Ён усё часцей задумваўся, параўноўваў свае поспехі з поспехамі Дзям'янчыкава: «Уладзімір імкнецца прымяніць толькі сілавы метад. А я ўпарта трымаюся скорасных рэжымаў... А які з гэтых метадаў лепшы?»

Аднойчы, прышоўшы дамоў, Фурын знайшоў адказ на гэтае пытанне.

Вечарэла. Праз фіранкі, афарбоўваючы іх у ружовы колер, сонца легла на сцяну косым квадратам святла. Леанід, падпёршы рукой падбародак, сядзеў ля стала.

Было крыху сумна. Не давала спакою ўсё тая-ж думка: «Як-жа быць?» Позірк хлапца, блукаючы па сцяне, спыніўся на рамцы, дзе пад шклом вісела Ганаровая грамата. Яе ён атрымаў ад Цэнтральнага Камітэта комсамола Беларусі за поспехі ў працы. «Не, Уладзімір не праў, не ўсе дэталі можна апрацоўваць адным толькі сілавым метадам»,—падумаў Леанід. Ён перабіраў у памяці прыклады, успомніў, як выступіў супраць аднаго толькі сілавога метаду ў кавальска-нарыхтоўчым цэху. І ў галаве выспявала рашэнне: «А што, калі прымяніць іх разам? Сілавы і скорасны метады спалучыць!»

З Дзям'янчыкавым у Фурына, як яму здавалася, былі нейкія незвычайныя адносіны. Леаніду здавалася, што чым больш ён набліжаецца да паказчыкаў Уладзіміра, тым больш насцярожаным становіцца той. Ён шукаў тлумачэння такім адносінам: «Можа зайздрасць? Дык не, ён усё-такі лепш за мяне працуе...»

Стаўшы за станок, Фурын яшчэ раз успомніў размову, якая адбылася ў яго з Дзям'янчыкавым. Прымаючы станок, Уладзімір якбы ненарокам кінуў:

— Ну, што? Даганяеш мяне?

— Спрабую, — усміхнуўся Леанід.

— Што-ж, спрабаваць можна, — адказаў Дзям'янчыкаў.

Леаніду здалося, што сказаў гэта Уладзімір з нейкай іроніяй.

Канец змены прышоў непрыкметна. Заводскі гудок адарваў Леаніда ад працы. Ён зноў успомніў пра Дзям'янчыкава. «Зараз прыдзе. Зноў будзе задзіраць нос...»

Сабраўшы апраўкі, цэнтры і люнеты, Фурын падышоў да інструментальнай кладовай. Ужо стоячы ля самага акенца, ён пачуў за сабой голас Дзям'янчыкава.

— Вы вось хоць і комсамольцы, а ў перадавікоў як след не вучыцеся, — прабіраў той кагосьці. — Прыглядзьцеся да работы Фурына. У яго не сорамна павучыцца.

Леанід азірнуўся. Ля дошкі паказчыкаў вакол Дзям'янчыкава сабралася група комсамольцаў.

— А калі што не ладзіцца, — працягваў Уладзімір, — то запытацца трэба. Леанід толькі здаецца такім замкнёным, а папрасі — дапаможа...

— Паслухай, Лёня, — нецярпліва сказала з акенца дзяўчына. — На каго гэта ты там загледзеўся? Давай хутчэй інструмент!

III

Пасля гэтай гутаркі Леанід заўважыў, што да яго часцей пачала звяртацца моладзь. То адзін, то другі комсамолец — а ў цэху апошні час пераважала моладзь — падыходзіў да яго за парадай.

Рос аўтарытэт Леаніда, ён гэта адчуваў сам.

Неяк незадоўга да абедзеннага перапынку да Леаніда падышоў Іван Афанасьевіч Дывень. Выгляд у майстра быў незвычайны. Заўсёды спакойны і сур'ёзны твар яго на гэты раз свяціўся радаснай усмешкай.

— Ну, віншую цябе, — паціснуў ён руку здзіўленаму Леаніду. — Ты гэта заслужыў...

— Аб чым вы гаворыце, Іван Афанасьевіч?

— Вось зараз даведаешся, — адказаў майстар. — Сход у цэху будзе.

Аб тым, што адбылося потым, Леанід успамінае, як аб вельмі важнай падзеі. Разам з усімі ён стаяў пасярэдзіне цэха. На падмостак, які ў цэху служыў трыбунай, падняўся парторг цэха. Ён коратка сказаў:

— Таварышы! Зараз мы атрымалі радасную вестку. Аднаму з лепшых токараў нашага цэха — комсамольцу Леаніду Фурыну — загадам міністра машынабудавання СССР прысвоена званне лепшага токара-скарасніка Савецкага Саюза.

Раздаліся воплескі. Леаніда акружылі рабочыя, комсамольцы, моладзь. Усе наперабой віншавалі, моцна паціскалі рукі...

Змену ў гэты радасны дзень Фурын закончыў з небывалым уздымам. Ідучы дадому, ён убачыў на заводскім двары «Маланку». Буйнымі літарамі ў ёй было напісана: «Леанід Фурын — лепшы токар-скараснік Савецкага Саюза. Сёння за змену ён выканаў вытворчае заданне на 400 працэнтаў». Гэта была перамога новага наватарскага прыёму, які вынайшаў Леанід Фурын.




## Помнік неўміручай славы

У дзень дзесяцігоддзя вызвалення сталіцы нашай рэспублікі Мінска ад фашысцкіх захопнікаў на Круглай плошчы горада быў урачыста адкрыты помнік-манумент воінам Савецкай Арміі і партызанам Беларусі, якія загінулі ў баях з ворагам у перыяд Вялікай Айчыннай вайны.

У праектаванні помніка прынялі ўдзел многія архітэктары і скульптары. Некалькі год назад быў абвешчаны ўсесаюзны конкурс на лепшы праект помніка. З Масквы, Ленінграда, Рыгі, Мінска і іншых гарадоў Саюза на разгляд урадавай камісіі паступіў семдзесят адзін праект. Камісія, пры шырокім удзеле грамадскасці, прызнала лепшым праект, выкананы беларускімі архітэктарамі Каралём і Заборскім. Ён і быў пакладзены ў аснову далейшага праектавання, а пазней — і будаўніцтва помніка.

Трыццацівасьмiметровы абеліск, абліцаваны шэрым гранітам і ўвенчаны ордэнам «Перамогі», бачны з многіх частак горада. Архітэктура жылых дамоў, якая ўтварае ансамбль Круглай плошчы, вырашана ў спакойных формах з тым, каб яшчэ больш падкрэсліць і выявіць веліч помніка.

Абеліск, на верхняй частцы якога высечаны дзве знамянальныя лічбы: 1941 і 1945, а на ніжняй — бронзавы герб Беларускай ССР, абапіраецца на кубічны п'едэстал. П'едэстал завяршаецца прыгожым карнізам з паліраванага граніту і стварае дзякуючы вуглавым каменням пераход ад п'едэстала да абеліска. Плоскасці п'едэстала аздоблены бронзавымі гарэльефамі, выкананымі лепшымі беларускімі скульптарамі Азгурам, Бембелем, Селіханавым, Глебавым. Гарэльефы, у якіх увасабляецца перамога нашага народа над ворагам, народны смутак па загінуўшых сынах і дочках савецкай зямлі, эпізоды мужнай барацьбы з'яўляюцца неад'емнымі часткамі помніка і дапамагаюць раскрыццю асноўнай ідэі, закладзенай у помніку.

Помнік акружаны кветнікам. Вакол помніка — чатыры з чорнага паліраванага лабрадору тумбы, на іх — вянкі Славы. На плоскасці пірамiды, што выходзіць да цэнтра горада, ляжыць меч і лаўровыя вянкі, якія з'яўляюцца сімвалам магутнасці і славы нашай Радзімы.

**Л. МАЦКЕВІЧ,**
**галоўны архітэктар г. Мінска.**

Фото Г. Масальскага і Д. Прэса.

Сёння брацкіх рэспублік

# Параходы ідуць па рацэ

**Міхась ПАРХОМАЎ**

**Пісьмо з Украіны**

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

По рацэ, напоенай водамі Бярозы і Сожа, Прыпяці і Дзясны, ад зямель Расіі і Беларусі ўніз, на поўдзень, ідуць судны... Плывуць цеплаходы, параходы, баржы. Яны сустракаюць яснае світанне, вячэрняе зарава, праплываюць каля чырвоных агнёў бакенаў, каля плаціны Днепрагэса, каля будоўляў новай плаціны Кахоўскай ГЭС. На берагах ракі ўзвышаюцца домны Днепрадзержынска, Днепрапятроўска, Запарожжа; блукаюць з тэадалітамі і нівелірамі разведчыкі, якія вызначаюць аснову будучай Крэменчугскай плаціны.

А было калісьці інакш. Дняпро, празваны ў старажытнасці грэкамі Барысфенам, помніць лядашчыя судны скіфаў, чорныя дубы запарожскіх сечавікоў. Дняпро бачыў воінаў гетмана Багдана Хмельніцкага, сустракаў пераможныя палкі Мікалая Шчорса. Сто трыццаць год таму назад з'явілася на рацэ першае паравое судна, пабудаванае рускімі майстрамі ў маёнтку князя Варанцова, непадалёку ад Чэркас. З архіўных матэрыялаў, якія захаваліся да нашых дзён, вядома, што гэтае судна перавозіла каменне і іншыя грузы, а потым было пераведзена цераз парогі ў Херсон.

Дняпроўскія парогі! Амаль паўтараста год вялася беспаспяховая барацьба з парогамі ў дарэвалюцыйныя часы. У 1887 годзе, да стагоддзя складання марных праектаў пакарэння Дняпра, гумарыстычны часопіс «Будильник» змясціў на сваёй вокладцы выразную карыкатуру. Каля парогаў сядзіць сівы дзед Дняпро, а па берагах некалькі бурлакоў з апошніх сіл цягнуць судна. Пад карыкатурай стаіць подпіс, які перадае размову паміж Дняпром і бурлакамі:

Дняпро:  
Забытый всеми я хирею,  
Слабеет мой могучий ток;  
Но всё-ж надежду я лелею,  
Что скоро ни один порог  
Не будет преграждать мой путь:  
Суда украсят мою грудь.

Бурлакі:  
Эх, дед, не верь пустой надежде,  
Пороги будут, как и прежде.  
Ты ждешь десятки, сотни лет,  
Пятьсот еще потерпишь, дед.

Але не давялося Дняпру вякамі сярдзіта разбіваць свае хвалі аб скалы Ненасытца. Тое, што не магло быць ажыццёўлена пры царызме, зрабіла совецкая ўлада, совецкія людзі.



Капітан парахода «Марыс Тарэз» Уладзімір Серадэнка.

## ЦЯПЕР НА ДНЯПРЫ

Дняпроўская вясна пачыналася гоманам птушак на вербах. Цёплае дыханне вятроў, ключы пералётных гусей, жураўлёў і першы трывожна-радасны гудок парахода...

У дняпроўскіх затоках стаялі параходы, гатовыя выйсці ў плаванне. Востра пахла свежай фарбай, мазутам і смалой. На суднах распальвалі качагаркі: белыя воблачкі ахутвалі магутныя трубы, а пліцы грабных колаў шумліва перабіралі густую веснавую ваду. Чырвоны вымпел навігацыі быў узняты над блакітнымі прасторамі.

Вось да прыстані падыходзіць маленькі двухсотсільны параход. Ён накіроўваецца ўніз па Дняпру. На барту парахода яркі надпіс «Піонер». Судну, пабудаванаму некалькі год таму назад на Кіеўскім заводзе імя Сталіна, рабочыя прысвоілі гэтае імя. «Гэта першае, — сказалі суднабудаўнікі, — самае маладое судна. Няхай яно носіць імя «Піонер».

На капітанскім мосціку парахода стаіць малады капітан Сотнік. Комсамольца Мікалая Сотніка ведаюць на Дняпры ўсе вадзіцелі. Пасля Айчыннай вайны ён закончыў рамесніцкае вучылішча, а цяпер плавае ўжо капітанам. Маладзёжны экіпаж парахода, дзе плячом да пляча працуюць рускія, украінцы і беларусы, прымяняе перадавы метад ваджэння суднаў — спосаб штурхання. Раней параходы цягнулі за сабой баржы на буксіры, а «Піонер» штурхае іх перад сабой па спадарожнай плыні, на вялікай хуткасці. Экіпаж на чале з самым маладым дняпроўскім капітанам з месяца ў месяц перавыконвае план перавозак.

Капітан Сотнік аддае загад. Параход адплывае. Працяжныя гудкі ўздымаюцца да высокага сонечнага неба. Шчаслівай дарогі!

У зімовыя, кароткія дні рачнікі шмат паклапаціліся аб тым, каб зараз параходы маглі паспяхова плаваць па рацэ. Маладыя матросы і матарысты авалодвалі спецыяльнасцямі токараў, сталяроў і імкнуліся найхутчэй прымяніць гэтыя веды на практыцы. Рамантуючы судны, яны сэканомілі дзяржаве сотні тысяч рублёў. На Дняпроўскім заводзе комсамольска-маладзёжная брыгада Пашчанкі датэрмінова выканала сваё пяцігадовае заданне.

На Дняпроўскіх параходах плавае шмат моладзі. Яна авалодвае складаным майстэрствам, перавозіць тысячы тон грузаў для народнай гаспадаркі краіны. У гэтым годзе рачнікі абавязаліся выканаць навігацыйны план перавозак датэрмінова, да XXXVII гадавіны Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі.

— У нас многа скрытых рэзерваў, — кажа лепшы капітан рачнога флота краіны, капітан парахода «Марыс Тарэз» Уладзімір Сяргеевіч Серадэнка. — Наша каманда маладзёжная. У сёлетнюю навігацыю мы разлічваем працаваць толькі ўдарна. Прызапасілі сякія-такія сакрэты, але аб іх яшчэ рана гаварыць, — і капітан хітра плюшчыць вочы. — Вось што значыць маладосць! І сябе я таксама старым яшчэ не лічу...

Следам за буксірам «Марыс Тарэз» ідзе на Пераяслаў-Хмельніцкі пасажырскі параход «Багдан Хмельніцкі». Людна на рачной магістралі. Нястомна кружаць стрэлы партавых кранаў, якія

Параход «Марыс Тарэз» штурхае баржы з рудой вагой 3 600 тон.







**Члены каманды парахода «Пархоменка» Н. Окунеў і В. Галубнічы пасля вахты.**

Фота Я. Павалоцкага.

уздымаюць шырокім ўзмахам шматтонныя цяжары. Шапоча збожжа пад хобатамі плывучых зернеэлеватараў і на лентах транспарцёраў. Шырокай плынню ідуць грузы: хлеб, пясок, цэгла, соль.

### КАПІТАН І ЯГО СУДНА

Пасажыр можа ўзыйсці па трапе акіянскага лайнера ці ўзняцца па сходнях на рачны параход, але як толькі ён пакідае зямлю, ён уручае сваё жыццё капітану судна. З гэтага часу і да канца рэйса ўвесь карабель падначалены волі аднаго чалавека. І ён, гэты чалавек, правядзе свой карабель скрозь дзевяцібальныя штормы і ледзяныя норд-осты, міма тысячы небяспечных нечаканасцей да прыстані роднага порта. Зарукай гэтаму вопыт, веды і сіла волі капітана.

Пасажыр можа быць спакойны, таму што кожны дзень, у слоту і непагоду, у дождж і сцюдзёны вецер, па высокім трапе, ледзь дакранаючыся пальцамі левай рукі да бліскучых поручняў, узнімаецца на камандзірскі мосцік чалавек у флоцкай форме. Гэта капітан заступае на вахту.

Але работа рачнога капітана не менш адказная, чым работа марака. Часамі рачному капітану нават цяжэй. На рэках няма лоцманскіх карт, а ўменнем «чытаць раку» валодае далёка не кожны. Акрамя ведаў і вопыту, тут патрэбна яшчэ інтуіцыя.

Рыгор Рыгоравіч Лубянец, адзін са старэйшых дняпроўскіх суднаваджаў, правёў на капітанскім мосціку больш трыццаці год. Амаль поўвека таму назад ён пачаў плаваць на рачных суднах. Прайшоў школу рулявога і даслужыўся да капітана пасажырскага парахода. Родам Рыгор Рыгоравіч з рыбацкай сям'і. Лубянцы даўно звязалі свой лёс з любімай справай. І зараз яшчэ, працягваючы традыцыю рода, па Дняпру плавае некалькі Лубянцоў. Даніла — капітан грузавога цеплахода «Латвія», сын Рыгора Рыгоравіча Пятро — капітан пасажырскага парахода «Рылееў», дачка Таіса — гідратэхнік, брат Сымон — рулявы. А сам Рыгор Рыгоравіч Лубянец — капітан пасажырскага парахода «Багдан Хмельніцкі».

Раней ён плаваў на параходзе «Кіраў». Лубянец і яго судна былі равеснікамі. Шэсцьдзесят два гады таму назад са стапеляў Бранскага суднабудаўнічага завода быў спушчаны параход «Рашучы». І ў тым-жа годзе нарадзіўся Рыгор Лубянец. Але сустрэча чалавека і парахода адбылася значна пазней, пасля Кастрычніка. Упершыню Рыгор Рыгоравіч узышоў на капітанскі мосцік гэтага парахода ў 1919 годзе.

Тады Лубянец ужо меў немалы вопыт. Ён плаваў каля дзесяці год, тры гады правёў на фронце, быў узнагароджаны трыма георгіеўскімі крыжамі. На Дняпро ён вярнуўся проста з фронта, але і тут, на залатых плёсах роднай ракі, яму даваліся яшчэ нямала змагацца з ворагамі. Лоеўская аперацыя, бітвы з белагвардзейскімі бандамі назаўсёды засталіся ў памяці капітана.

Вялікія пераўтварэнні адбыліся на яго вачах. Ён быў не толькі сведкам, але і ўдзельнікам гэтых гістарычных падзей. І Радзіма даручыла яму цяпер новы параход — камфартабельнае судна, пабудаванае па апошняму слову тэхнікі — «Багдан Хмельніцкі».

### У АДЗІНАЙ СЯМ'І

Калі на параход «Звеннявы» з'явіўся малодшы лейтэнант Цімашэнка і далажыў капітану Аляксандру Пятровічу Канаваленку, што ён прызначаны другім памочнікам, той сказаў:

— Што-ж, добра, добра... Калектыў нашага судна можна назваць многанацыянальным. Вось механік Міхась Надточы украінец з Чарнігаўшчыны. Першы памочнік механіка Сцяпан — рускі з-пад Бранска, а вы, таварыш Цімашэнка, значыць, беларус. Будзем агульнымі сіламі згуртоўваць каманду ў адзіную, дружную сям'ю, накіроўваць усе намаганні на ўзорнае выкананне задач.

І сапраўды, неўзабаве на сходзе каманда прыняла на сябе абавязацельства завяршыць навігацыйны план датэрмінова. Разгарнулася спаборніцтва.

Параход «Звеннявы» адзін з першых падхапіў пачын ваджэння суднаў метадам штурхання. Дзякуючы дружнай рабоце ўсёй каманды, параход прыходзіць у пункты прызначэння заўсёды раней тэрміну. Камсамольская брыгада парахода і яе сакратар Сцяпан Голікаў дапамагаюць камандаванню прывіць кожнаму члену экіпажа пачуццё адказнасці за даручаны ўчастак работы, узняць працоўную дысцыпліну.

На судне пануе атмасфера брацкай дружбы, узаемнай дапамогі. Механік Надточы дапамагае качагарам Каршуну і Назарэнку ў авалоданні майстэрствам. Вось ужо тры гады параход рамантуецца сіламі экіпажа. І ў гэтым — немалая заслуга Міхася Надточага, Аляксандра Каршуна, Дзмітрыя Сердзюка, Сцяпана Голікава, Зіновія Цімашэнкі і шмат іншых. Моцнае сяброўства, брацкая дапамога — вось тая сіла, якая забяспечвае калектыву парахода высокія вытворчыя перамогі.

### ПАДСЛУХАНАЯ РАЗМОВА

Параход ішоў ноччу. Змоўк баян, і ціхае зорнае неба павісла над галавою. Многія пасажыры спалі. На капітанскім мосціку пахаджваў капітан. Суднавы боцман і маладая калгасніца з-пад Гомеля, якую ўсе звалі проста Марыйкай, ды выпускнікі рамесніцкага вучылішча, што ехалі па пуцёўках на будаўніцтва Кахоўскай ГЭС, размаўлялі між сабой.

— Вось так, — няпэўна сказаў боцман. — Ціхая ночка. Плывем мы з вамі па рэчцы, як па зорках на небе.

Рака за бартом парахода была ўсыпана зорамі. Параход расштурхваў носам зоркі, і яны палахліва разбягаліся ў бакі.

— Шлях у вас цяпер зорны, быццам гэты, — звяртаючыся да рамеснікаў, сказаў боцман і абвёў рукой шырокі поўкруг. — Што загадаеш, збудзецца...

— Ну, ужо і збудзецца?!. — недаверліва махнуў рукой юнак.

— Гэта ты дарэмна, хлопча, — боцман Дзюба скоса паглядзеў на юнака. — Жыць хораша, тым больш жыць трэба ўмеючы, з галавой... Эх, не цэніць яшчэ наша моладзь багацце, што бацькамі здабыта! Пабыць-бы табе за акіянам ды паглядзець тамашніх юнакоў, як яны спіну гнуць ад ранку да вечара. Дай такому шчасце на сталявара вывучыцца ды на інжынера, ён заскакаў-бы ад радасці.

— А вы бывалі за акіянам?

— Вядома, бываў. Ведаю, зараз пра небаскробы распытваць будзеш? Дык вось, хлопча, хоць людзі там і высока ў небаскробах жывуць, а ўсё-ж ад запаветнай зоркі, ад шчасця, яны на тысячы вёрст далей, чым мы з табой.

Хлопец, які сядзеў на сундучку, сказаў:

— Я буду працаваць і вучыцца. Інакш не магу. Бацька мог-бы дапамагаць яшчэ гадоў пяток, але я сам не захацеў. Ваяваць я не паспеў, малы быў, калі вайна ішла. А калі цяпер не працаваць, то, глядзі, як-бы без цябе і камунізм не пабудавалі...

— Гэта праўда, хлопча, — пахваліў Дзюба. — Вучыцца трэба, і працаваць і вучыцца. Час такі.

Другі юнак сказаў:

— Я вось яшчэ не ведаю, ці буду майстрам. Але хачу...

— Не «хачу», а «буду»! Больш упэўненасці трэба, — паправіў боцман і, ужо звяртаючыся да дзяўчыны, спытаў: — Няпраўду кажу, Марыйка?

— Ім лёгка гаварыць, — адгукнулася дзяўчына. — А мая думка — гэта мара цэлага звяна... Значыцца, я за ўсіх адказваю. Ну, але няхай! Думаю, што дзяўчаты на мяне не будуць крыўдаваць. У мінулым годзе мы ўзялі абавязацельства сабраць па трыццаць цэнтнераў з гектара. Ночы не спалі, усё стараліся. Але колькі радасці было, як падлічылі ўраджай! Па трыццаць два цэнтнеры з усёй плошчы ў восем гектараў! А ў гэтым годзе не менш чым па трыццаць пяць цэнтнераў нам сабраць трэба...

На грудзях дзяўчыны прышпілена да белага кафтаніка Залатая Зорка.

— Яна не для таго мне дадзена, — з усмешкай сказала дзяўчына. — З ёю яшчэ больш клопату. Калі табе далі ўзнагароду, дык кожным словам і справай будзь варты яе. Мне цяпер адставаць не выходзіць: трыццаць пяць цэнтнераў дам!

— Правільна, дачушка, — сказаў боцман Дзюба. — Чалавек павінен быць вартым сваёй запаветнай зоркі.

Змоўклі. Навокал была густая летняя цеплыня, якая дыхае жнівом і спёкай. Боцман глыбока ўздыхнуў і выбіў на далоні попел з люлькі... Параход плыў па Дняпры, як міжпланетны карабель па Гусіных Шляхах...

...Ідуць параходы здалёк, вязуць грузы з-пад Смаленска, Магілёва, Гомеля, плывуць па рацэ, якая злучае тры рэспублікі.

Вось Канеў. За Каневам — Чэркасы, Крэменчуг, зарава над домнамі Днепрадзержынска і Днепрапятроўска, блакітны разліў возера імя Леніна, плаціна Дняпроўскай ГЭС, агні Кахоўскай будоўлі. Чырвонай лініяй адзначаны гэты шлях на дыспетчарскім графіку. Ён цяжкі і светлы...

**г. Кіеў.**

# Лясная казка





Высокія сосны чаргуюцца з разгалістымі дубамі, купчастымі вязамі і таполямі. Стромкія бярозкі, маладыя ліпы, арэшнік, рабіна пераплялся паміж сабою так, што ўтварылі непраходны гушчар. Здаецца, на кожным кроку чакае цябе тут нейкая таямніца. Казачна выглядае лес! І нездарма ў гэтай жывапіснай мясцовасці на беразе рэчкі Рось раскінуўся піянерскі лагер, які носіць назву «Лясная казка».

На паляне размясціліся карпусы лагера. Спаборнічаючы з ранішнім птушыным гоманам, гучыць піянерскі горн. Вучань сёмага класа Ваўкавыскай сярэдняй школы Коля Шлык — пастаянны гарніст — будзіць сваіх сябраў. І вось ужо зазвінеў, заспяваў, зашумеў дзіцячымі галасамі лясны гарадок. А яшчэ праз колькі хвілін на мачце ўрачыста ўзвіўся сцяг лагера. Пачаўся «працоўны» дзень, які прынясе многа цікавага, захапляючага, запоўніць дзіцячую душу нечым новым, яшчэ невядомым.

У лагеры — дзеці розных узростаў. Совет дружыны ўлічвае гэта, намячаючы на кожны дзень адпаведныя мерапрыемствы. Пасля снедання ў піонерскім пакоі сабраліся самыя маленькія — першакласнікі. Баяніст Уладзімір Кабыльскі вучыць іх спяваць. З пакоя даносяцца

Фото А. Дзітлава.







словы песні «Дзедушка, дзедушка, шэрая бародушка»... Фізрук Уладзімір Зарэцкі збірае старэйшых вучняў. Сёння адбудзецца лагерная спартакіяда. Піонеры будуць спаборнічаць у бегу, прыжках, плаванню, гульні ў валейбол.

Нечым заклапочана яшчэ адна група піянераў. Хто шукае запалак, хто пакуе ў сталовай розны харч у клунак, хто пытаецца сякеры. Гэта рыхтуецца аднадзённы паход вучняў шостых і сёмых класаў у соўгас «Рось», размешчаны адсюль за сем кіламетраў. Старшая піонерважатая Раіса Смоліч, якая пойдзе з гэтай групай, уважліва аглядае адзенне піонераў, цікавіцца станам здароўя. З песняй піонеры выходзяць з лагера. Пройдземся і мы разам з гэтай вясёлай купкай хлапчукоў і дзяўчынак.

На лугу каля рэчкі Рось Раіса Смоліч разгарнула карту. Уважліва праглядаюць піонеры свой маршрут. І вось яны, вясёлыя, бадзёрыя, рушылі ў паход. Многа цікавага чакала дзяцей наперадзе. Недалёка ад сядзібы соўгаса піонеры заўважылі нейкі незвычайны трактар.

— Раіса Іванаўна, зойдзем паглядзець, — просяць піонеры.

І вось дзетвара абкружыла магутны бульдозер, які ачышчае дно рыбнай сажалкі. Механік соўгаса Мікалай Шаціла і трактарыст Генадзі Калінскі расказваюць, што соўгас мае 150 гектараў саджалак для развядзення рыбы.

На жывёлагадоўчай ферме тлумачэнні давала галоўны зоатэхнік соўгаса Аляксандра Фёдараўна Зайцава. Яна вадзіла піонераў па прасторных і чыстых жывёлагадоўчых памяшканнях, пазнаёміла іх з лепшай даяркай рэспублікі Ганнай Паўловіч, якая надаіла ў мінулым годзе 6 461 літр малака ад кожнай каровы. У гэты час якраз брыгадзір па жывёлагадоўлі Надзежда Кухаронак узважвала бычка.

— Месяц таму назад, — сказала яна дзецям, — бычок важыў 123 кілаграмы, а цяпер важыць 151 кілаграм. Сярэдні прывес — 900 грам у суткі.

Цікавую кнігу чыталі дзеці на прывале. А калі паход заканчваўся, Эдзік Іваноў сказаў:

— А цяпер сядайце, я вас сфатаграфую.

І вось ён настаў, гэты ўрачысты момант. Піонеры селі на мураве, і Эдзік на памяць аб цікавым паходзе зрабіў здымак.

**А. ЮР'ЕУ.**





В. ТРЫХМАНЕНКА

# ДАРОГА Ў НЕБА

Летні дзень нараджаўся ціхім і ясным. Разам з сонцам у неба падняўся самалёт. Віраж налева, направа, паварот... Бліснуўшы крылом, самалёт раптам імкліва рынуўся ўніз і, апісаўшы пругкую дугу, зноў ірвануўся ў паднябессе.

Той, хто сачыў-бы за ім з зямлі, бясспрэчна, падумаў-бы, што машынай кіруе не малады аэраклубавец, а вопытны лётчык...

### 1. Таварыш інструктар

Сінявокая дзяўчына з сімпатычнымі вяснушкамі выйшла з вакзала і спынілася на плошчы. Шафёр таксі, убачыўшы яе, усміхнуўся.

— У інстытут ці да бабулькі?

—У аэраклуб.

Шафёр здзівіўся. Такое дзеўчанё — і раптам у аэраклуб! Але ўсё бывае на свеце.

Мірдза Гайліс прыехала з Рыгі, каб паступіць у Мінскі аэраклуб. У яе быў маленькі чамаданчык і камсамольская пуцёўка. Знаёмых у горадзе ў дзяўчыны не было, і яна начавала на вакзале. Потым пайшла ў райком камсамола, і яе накіравалі працаваць на трактарны завод вучаніцай токара.

Першы, каго Мірдза сустрэла ў аэраклубе, быў строгі з выгляду, загарэлы да чарнаты чалавек. Лёгкая сівізна зусім не пасавала да яго яшчэ маладога твару і здавалася чужой.

— Вы на парашутнае аддзяленне, дзяўчынка? — запытаў ён.

— Не. На лётнае.

Уладзімір Іванавіч Шэйбак — вопытны інструктар-лётчык, камандзір звяна — правёў дзяўчыну крытычным позіркам. У душы ён не асабліва верыў у курсантаў-дзяўчат, лічыў, што з іх асаблівага толку ў авіяцыі быць не можа. Пазней інструктару прышлося змяніць такую думку.

На заводзе Мірдза вельмі хутка авалодала спецыяльнасцю токара і пачала нават выпрацоўваць па дзве нормы за змену. Не горш атрымлівалася ў яе і на аэрадроме.

— Вось табе і вяснушкі!.. — сказаў аднойчы Шэйбак, які сачыў за палётам дзяўчыны. — Гэтая дзяўчына будзе сапраўдным лётчыкам.

Каля шасцідзесяці выхаванцаў было ў Уладзіміра Шэйбака. Многія з іх сталі лётчыкамі, нават вядомымі асамі. Нядаўна да свайго настаўніка завітаў Мікалай Каровін, які ў свой час быў адным з самых «цяжкіх» вучняў. І гэта было, мусіць, не выпадкова. У дзяцінстве Мікалай Каровін не марыў аб пілатажы, не будаваў мадэлей. Працаваў ён у аэраклубе вартаўніком, нічым асаблівым не вызначаўся. Калі тэхнікі накрывалі чахламі самалёты і ішлі дамоў, нанач заставаўся каля машын Каровін.

Аднойчы Мікалай прынёс начальніку аэраклуба заяву, у якой прасіў, каб яго «навучылі на лётчыка». Прыглядзеліся. Комсамолец, вучыцца ў дзесятым класе вячэрняй школы. Хлопца прынялі.

У першых-жа палётах з інструктарам высветлілася, што Мікалай «не адчувае зямлі» і нават палохаецца яе. Многа тыдняў вучыў яго Шэйбак садзіць самалёт. І ўсё без поспеху.

— Ну, паслухай-жа, браток, — губляючы цярпенне, гаварыў інструктар. — Дабірай зараз ручку... Плаўненька... Глядзі, машына сама садзіцца.

Але Мікалай дзейнічаў наадварот. Усю сваю сілу ён накіроўваў якраз на тое, каб тыцнуць самалёт вуглом у зямлю. І ўсё-ж Шэйбак чамусьці верыў, што Каровін навучыцца садзіць машыну, што з яго атрымаецца добры лётчык. Выйшла, як ён думаў. Курсант хутка зраўняўся з другімі, а пазней пачаў пераганяць іх. І цяпер вось — лётчык.

Былыя выхаванцы Уладзіміра Шэйбака не забываюць свайго першага настаўніка. Вядомыя асы ў пісьмах і пры сустрэчы называюць яго «таварыш інструктар», як і раней, у час першых палётаў.

### 2. Першы самастойны

Цяжка нават расказаць, як можна навучыць чалавека лятаць. Некаторыя думаюць, што ў кабіне самалёта ёсць руль і розныя там рычагі, як і ў аўтамашыне: павярнуў руль направа — і самалёт паляціць направа, выключыў газ — машына прызямліцца.

У сапраўднасці-ж зусім не тое. Ёсць у авіятараў такое выражэнне: «каардынацыя рухаў». Для лётчыка гэта адзін з галоўных паказчыкаў яго майстэрства.

Узяць, напрыклад, самы звычайны разварот на дзевяноста градусаў хоць-бы налева. Злёгку дабаўляеш абароты матора для павелічэння хуткасці. Ручку кіравання даеш ледзь наперад і ўлева. Адначасова націскаеш на левую педаль руля паваротаў. Нельга «перадаваць нагу». Такую памылку можна даравяць на «ПО-2», а хуткасны самалёт сарвецца ў штопар. Каардынацыю рухаў кантралюеш па лініі гарызонта і па спецыяльнаму прыбору «Піонер». Калі-ж самалёт нахіліўся і пачалося вуглавое вярчэнне, патрэбна падтрымаць яго адваротным дзеяннем вертыкальных і гарызантальных рулёў.

На пасадцы-ж увогуле трэба быць мастаком. А ёсць-жа яшчэ штурманскія палёты, ёсць вышэйшы пілатаж!

Лётчыкі часта гавораць аб самалёце, як аб істоце жывой: «любіць поўны дабор ручкі», «не церпіць рэзкіх рухаў», «ахвотна ідзе ў штопар». З самалётам у палёце патрэбна зліцца ў адно, адчуць сілу яго крылляў, магутнасць яго матора, імклівасць яго пілатажу. І пакуль не вывучыш асноў аэрадынамікі, не падымешся ў паветра, не адчуеш машыну — ніколі не зразумееш, што такое палёт.

Чорнавалосы, з зеленаватымі цыганскімі вачыма юнак сядзіць у задняй кабіне «ПО-2». Інструктар вылазіць з пярэдняй кабіны, нахіляецца да курсанта і, стараючыся перакрычаць шум матора, дае апошнія ўказанні.



**— Вось так ішлі яны, а мы былі вышэй... — расказвае Герой Савецкага Саюза Аляксандр Васільевіч Лобанаў. Сярод яго ўважлівых слухачоў комсамольцы Дзмітры Сіліч, Аляксандр Бакуновіч, Аляксандр Трафімюк і Віталі Мядзведзеў. Яны авалодваюць у аэраклубе майстэрствам палёту.**



— Добра ў небе! — Мірдза Гайліс, токар Мінскага трактарнага завода, без адрыву ад вытворчасці займаецца на лётным аддзяленні аэраклуба. Яна ўжо робіць самастойныя палёты на спартыўным самалёце «ЯК-18».

— Здолееш, не хвалюйся.

Хлапец ківае галавой. У пярэднюю кабіну кладуць мяшок з пяском — для роўнавагі. Вось самалёт ужо ў паветры. Інструктар не зводзіць з яго вачэй.

— Кірунак крыху страціў, — кажа нехта з курсантаў.

— Маўчы ты, кірунак, — не адрываючыся ад самалёта, гаворыць інструктар. — Хлопец проста сілай сваёй любуецца.

Праз колькі хвілін самалёт прызямліўся. Выдатная пасадка! Яшчэ адзін узлёт, і зноў выдатна! Больш у гэты дзень лятаць не дадуць.

Эдуарду цісную рукі, віншуюць. А ён ніяк не можа апаматацца: ён-жа самастойна лятаў! Што цяпер скажуць у дзесятым «А», калі аб гэтым даведаюцца...

Прайшло шмат часу з таго дня, калі Эдуард Райко зрабіў свой першы самастойны вылет на просценькім «ПО-2». Зараз юнак — адзін з лепшых курсантаў Мінскага аэраклуба і лятае ўжо на спартыўным «ЯК-18». Машына гэтая складанейшая за «ПО-2» тэхнікай пілатавання, на ёй убіраюцца шасі, ёсць радыёабсталяванне.

І ўсё-ж юнак ніколі, мусіць, не забудзе свайго першага самастойнага вылету. Нездарма гавораць бывалыя лётчыкі, што першы самастойны вылет — гэта другое тваё нараджэнне.

### 3. Чайка

У лагчынах прыціхлі, бы заснулі, вятры. Ахутаўшыся сіняватай смугою, нерухома стаіць лес. Яркія зоркі, любуючыся сваёй прыгажосцю глядзяць у люстра ракі і, здаецца, падміргваюць адна другой.

— Дакаталіся, світае ўжо, — задумліва гаворыць Жэня, апусціўшы руку за борт лодкі.

Міхась сядзіць за вёсламі і, не зважаючы на світанне, вядзе бясконцыя размовы пра марскую службу, пра навальніцы і штормы, пра мары-акіяны. Міхасю, матросу-першагодку, здаецца, што яго расказы Жэня, вясковая дзяўчына, павінна слухаць, затаіўшы дыханне. Яна-ж усяго гэтага і ў сне не сніла!..

— Міхась, — раптам гаворыць дзяўчына пасля доўгага маўчання. — Я нядаўна пачала вучыцца лятаць на планеры. Ты бачыў планер калі-небудзь?

— Не, — разгублена адказвае Міхась.

Жэня тады яшчэ не ведала, што гэтая размова на рацэ будзе яе апошняй размовай з Міхасём. Лёгкадумны хвалько, які больш за ўсё любіў станавіцца ў позу героя, проста спалохаўся, што цяпер у вачах дзяўчыны ён перастане быць героем.

Неўзабаве Жэня паступіла на Мінскі трактарны завод кантралёрам. Адначасова вучылася ў дзесятым класе вячэрняй школы. Не пакідала дзяўчына і вучыцца лятаць на планеры.

...Ідуць спаборніцтвы спартсменаў-планерыстаў Цэнтральнага аэраклуба Беларусі. Планер буксіруецца самалётам на вышыню. Нарэшце, трос адчэплены. Планер у самастойным палёце. Інструктар-камсамолец Валянцін Калабанаў пільна сочыць за палётам.

— Малайчына, Жэня, лепш за ўсіх! — радуецца ён за сваю выхаванку. — Сапраўдная чайка!

А Жэня высока ў небе. Шкада толькі, што няма воблакаў: арыентуючыся на іх, лягчэй знаходзіць узыходзячыя паветраныя плыні — ад воблака да воблака. Жэня шукае тэрмічныя плыні. Яна бокам абыйшла лес, бо ведала, што такіх плыней там быць не можа.

Планер Жэні доўгай амаль знік з поля зроку. Але Валянцін Калабанаў не баіцца за дзяўчыну, ён упэўнены ў яе поспеху.

— Планерам, хоць ён і без матора, кіраваць не лягчэй, а нават цяжэй, чым самалётам, — расказвае інструктар. — На ім нельга рабіць памылак. Вельмі складаны разлік на пасадку. Калі, напрыклад, недалёт, то падцягнуць нечым, матора-ж няма.

У гэтую хвіліну планер Жэні пайшоў на пасадку. Разлік быў дасканалы. Машына плаўна прызямлілася, каўзанулася па траве і ледзьледзь схілілася на левае крыло. Зараз яна асабліва была падобна на вялікую чайку, што чыркнула крылом зеленаватую марскую гладзь.

### 4. Пра дні вялікай славы

Многія выхаванцы Цэнтральнага аэраклуба БССР у гады Вялікай Айчыннай вайны асвоілі баявыя машыны і адважна змагаліся за Радзіму. Пяць з іх сталі Героямі Савецкага Саюза.

Герой Савецкага Саюза Аляксандр Васільевіч Лобанаў зрабіў на фронце 560 баявых вылетаў, збіў асабіста 26 самалётаў, у групе з баявымі сябрамі — 14. Аляксандр Васільевіч дэмабілізаваўся і зараз зноў працуе ў Мінскім аэраклубе. Часта ён бывае на аэрадроме, і тады, сабраўшыся пад крылом спартыўнага самалёта, юнакі-аэраклубаўцы наперабой просяць яго расказаць што-небудзь са свайго баявога жыцця.

Герою часта прыходзіцца ўспамінаць мінулыя дні. Вось і сёння расказаў ён два невялікія эпізоды са сваёй баявой практыкі.

...Было гэта на Курскай дузе. Аляксандр Лобанаў на пару з Міхаілам Сіменцавым паляцелі суправаджаць нашага карэктыроўшчыка. Над лініяй фронта вылецелі ў вялікае «акно» сярод воблакаў. І тут на іх наваліліся чатыры «месершміты» і чатыры «фоке-вульфы». Карэктыроўшчыку было загадана адыйсці ўбок, а два савецкія знішчальнікі ўступілі ў няроўны бой супраць васьмі варожых машын.

Лобанаву ніколі яшчэ не прыходзілася так пілатаваць. Ён кідаў машыну ў крутое піке і свечкай узвіваўся ў неба, ухіляючыся ад ворагаў і займаючы выгадную пазіцыю для атакі. Праз мікрафон да яго даносілася:

— Саша, уважлівей: ззаду пара...

— Адсякай, я б'ю пярэдніх.

У адзін момант гэтага непамерна цяжкага бою атрымалася так: уперадзе пікіраваў «месершміт», за ім Сіменцаў, вышэй быў «фокевульф», а яшчэ вышэй — Лобанаў. Гэта цягнулася ўсяго некалькі секунд, але вырашала лёс бою. «Месершміта» ўвагнаў у зямлю Сіменцаў, а «фоке-вульфа» трапнай чаргой збіў Лобанаў. Шэсць фашыстаў не вытрымалі і пакінулі поле бою.

Адзін з лепшых лётчыкаў Н-скага знішчальнага палка, Лобанаў не раз вылятаў на «паляванне». Аднойчы ён з напарнікам сустрэў чацвёрку фашысцкіх знішчальнікаў. Тыя ішлі ніжэй, пад самымі воблакамі.

— Атакую. Прыкрый! — крыкнуў Лобанаў па радыё свайму напарніку, кідаючы машыну ў піке.

Гэта быў выдатны, сакаліны ўдар. Лобанаў развіў велізарную хуткасць, праскочыў пад «фокераў» і, амаль вертыкальна задраўшы нос свайго знішчальніка, усадзіў у цела фашысцкай машыны смяротную чаргу...

Уважліва слухаюць героя юнакі. У вачах іх свеціцца гордасць за сваю краіну, якая стварыла такую выдатную тэхніку, выхавала такіх цудоўных людзей, як Лобанаў, што ў суровых баях адстаялі мірнае стваральнае жыццё свайго народа.

ХВ. ЖЫЧКА

## Рамонкі

Перад экзаменам ў пісьме
Прыслала ты рамонкаў кветкі.
І нагадалі яны мне,
Як пахнуць родныя палеткі.

Прыпомнілася, што якраз
Цяпер красуе ў полі жыта
І, як вясной разліў Дняпра,
Лён усміхаецца блакітам.

Адчуў я сэрцам, што палі —
Рабочы стол для агранома,
Яго экзамен і залік,
Праверка вартасці дыплома.

І знаю: прывядуць мяне
Ізноў на родныя палеткі
Рамонкаў прыдарожных кветкі,
Што ты прыслала мне ў пісьме.



— Віншую вас з першым самастойным! Выдатны палёт! — гаворыць камандзір звяна Уладзімір Шэйбак і ад душы паціскае руку Эдуарду Райко — лепшаму курсанту Мінскага аэраклуба.

Фото Е. Кальчэнкі.



Дзімітры ОСІН

# ВЯЛІКІ ДНЯПРО

Апавяданне

Мал. І. Давідовіча.

Осьма ішла з лясоў; цёмная вада яе доўга не змешвалася з мутнажоўтай палявой, якая несла размыты пясок і суглінак. Паводка разлілася цераз берагі, якія цяпер можна было ўгадаць толькі па адзінокіх, яшчэ не зазеляненых бярозках, ды па залатых кустах вярбы, ля якіх павольна кружыліся трэскі, набрынялая салома і рознае смецце.

Васіліна ўпраўлялася каля агню, раскладзенага на вялікім жалезным лісце з загнутымі, як у патэльні, краямі, дзе на абгарэлай паверхні відаць былі нейкія словы — ці то нямецкія, ці то англійскія, — хто іх разбярэ пасля ўсяго, што здарылася тут, на смаленскай зямлі, у бельскіх лясах і балотах. Агонь дыхаў гарачынёй каля самай хаткі з расчыненымі дзвярыма, з вокнамі на тры бакі. Новая, яна — з сасновых, добрых бярвенняў — быццам на пацеху была збудавана на галоўным плыце, які ішоў наперадзе каравана.

Пячнікі прапаноўвалі скласці ў ёй печку, самую сапраўдную, з комінам і ляжанкай, каб можна было грэцца Сільвестру Пятровічу, але той сярдзіта адмовіўся, невядома з якой прычыны адчуўшы насмешку ў гэтай прапанове.

«А як выгадна і добра было-б, — думае Васіліна, варушачы сухія дробна паколатыя калодачкі, якія пілаваліся, сушыліся для газагенератарных машын і апынуліся клапатліва прызапасенымі на плыце. — Абед, як бачыш, згатавала-б сапраўдны, а не кулеш ды крупнік, як зараз, і ляжанку напаліла-б гарачай , каб дзед Сільвестар Пятровіч, грэючыся, не скардзіўся на паясніцу і рэўматызм!»

Аскабалкі гараць амаль без дыму. Сонца прыпякае зусім па-летняму. Кулеш злосна фыркае, бубніць штосьці, як жывы, смачна дыхае падсмажанай цыбуляй, салам і чымсьці яшчэ — ці то закіпеўшай сасновай смолкай, ці то клейкай бярозавай кнюткай. І Васіліне весела варыць яго, весела, надзьмуўшы запэцканыя мукой ружовыя губы, студзіць гарачую металёвую лыжку, весела глядзець на шырокі пад сонцам разліў і плыць, плыць у далёкі, нябачаны край, дзе будуецца вялікая, дзіўная гідраэлектрастанцыя і куды дзед гоніць плыты.

Васіліна даўно ведае: Сільвестар Пятровіч не любіць, каб яго клікалі дзедам, але саромецца выдаваць гэта. Толькі ёй дазволіў ён зваць сябе так. Але яна ведала, як падыйсці да дзеда і, надумаўшыся папрасіцца ў паездку, схітрыла, паддобрылася:

— Сільвестар Пятровіч, родненькі, вазьмі мяне з сабою!

— Навошта гэта?

— Кулеш табе буду варыць, юшку рыбную..

— Ого! Кулеш я і сам умею, і юшку таксама патраплю.

— Ну ўжо, патрапіш!.. — пакрыўдзілася Васіліна. — Дымам уся смярдзець будзе, махоркай. Есці агідна...

— А табе, можа, і не давядзецца есці, — Сільвестар Пятровіч засмяяўся, задаволены, што даняў Васіліну, але тая здагадалася: згодзен, бярэ — і накінулася на яго, як сакавіцкі вецер.

— Давядзецца, давядзецца! Я табе газеты буду чытаць у дарозе. У Кахоўцы, ведаеш, на колькі кілават гідрастанцыя будзе?

— Упыніся, упыніся. Ведаю, — адбіваўся Сільвестар Пятровіч, матляючы шырокай барадой, цёмнай унізе і быццам заінелай вышэй, каля скроняў. — Так табе там на кожным беразе газетныя кіёскі панастаўлены! «Калі ласка, Васіліна Сяргееўна! «Праўду»? «Известия»? Новы часопіс «Моды сезона» прышоў!

... Бацька Васіліны загінуў у сорак трэцім годзе. Загінуў пры падрыве каля Дураўскай, дзе партызаны звалілі пад адхон цягнік з цыстэрнамі гаручага. Васіліна помніць бацьку цьмяна. Цяпер усё часцей ён прыгадваецца ёй нейкім накшталт старэйшага брата, а бацькам — дзед Сільвестар Пятровіч.

Пасля смерці сына Сільвестар Пятровіч прыкметна занядужаў, часцей пачаў скардзіцца на паясніцу, «раматус» і прывязаўся да ўнучкі. Нават на дзялянку ўзяў яе з сабою, калі ішоў у Чырвоны Бор на ўсю зіму. Васіліна была падобная да маці — такая-ж сінявокая, чырвонашчокая, з прывабным агеньчыкам задору ў дробных, але ясных рысах твару. Павяжацца нізка, па самыя бровы хусткай — жанчына, выпусціць ружовы просценькі каснік на касе — дзеўчанё.

Закончыўшы сямігодку ў Ігараўскай, дзе знаходзіўся пасёлак лесарубаў і малочны соўгас, яна паехала ў Дарагабуж, але ў тэхнікуме ўсе месцы былі запоўнены, а пакуль збіралася ў вобласць, — час ішоў, прыём ужо ўсюды закончыўся.

— Нічога, гады тваё яшчэ невялікія, — суцяшаў яе Сільвестар Пятровіч. — І не па малочнай справе табе ісці трэба, а па нашай, лясной. Лес не толькі валіць, але і гадаваць патрэбна!

Васіліна, праўда, супакоілася, тым больш, што малочная справа толькі спачатку здалася ёй цікавай, а калі падумаеш ды параўнаеш, — вырошчваць лес куды цікавей і патрэбней для дзяржавы...

«Без малака яшчэ можна выцерпець, — думала яна, пераконваючы сябе ў тым, што лясная справа важней малочнай, — а без лесу ніяк! Будавацца пасля вайны трэба, гарады, заводы, электрастанцыі будаваць — усюды лес, лес і лес...»

Яна была яшчэ ў тым узросце, калі ўсё-ўсё здаецца захапляючым і цікавым, усё жыццё адкрыта і не ведаеш, што выбраць на што аддаць сябе без астатку.

— Колькі? — пытае, стоячы ля правіла, Сільвестар Пятровіч і ад усяе сілы налягае на доўгі дабела abструганы дышаль.

І Алёша Балыкін, што ў вялікіх гумавых ботах бегае па плытах, смела пераскокваючы са звяна на звяно, мерае доўгай жэрдкай ваду і радасна адказвае:

— Глыбока! Напэўна тры такіх схаваецца..

Алёша ведае ўсе машыны, з завязанымі вачыма разбярэ і збярэ любы матор, але нікольні не фанабэрыцца гэтым, не п'е, не курыць і з усімі дзяўчатамі на ўчастку абыходзіцца даверліва і дабрадушна. Васіліне ён здаецца лепшым за ўсіх хлопцаў — высокі, дужы і з твару не тое, каб прыгажун, а нічога не скажаш — сімпатычны.

Яна аглядваецца на Алёшу, расчырванелая ад гарачыні на адкрытым рачным ветры, і весела жмурыцца:

— Скора Дняпро... вялікі Дняпро!

— А тут і зусім дна не дастаць, — кідае Алёша, выцягваючы мокрую, бліскучую на сонцы жэрдку, і смяецца: — Дняпроўскай рыбкі хутка пакаштуем... праўда?

— Калі наловіш, — разважліва адгукаецца Васіліна. — Ідзі есці, а то кулеш астыне!

Выправіўшы плыты на сярэдзіну Осьмы, Сільвестар Пятровіч замацоўвае правіла і, нахіліўшыся над краем плыта, спаласквае вялікія чырвоныя ад халоднай вады рукі. Васіліна падае яму рушнік.

Абветраны, ужо загарэлы на пякучым вясеннім сонцы твар плытагона задуменны. Вочы глядзяць удалячынь.

— Ад Смаленска амаль дзевяцьсот да Кіева, — нетаропка вымаўляе ён. — Ды там яшчэ да Кахоўкі, напэўна, пяцьсот будзе...

Алёша садзіцца на лаўку, прыладжаную на двух невысокіх калодках, пляскае па каленях.

— Калі па сто кіламетраў у суткі ісці, лічы — да Першага мая на месцы будзем.

— Добра-б, — няпэўна згаджаецца Сільвестар Пятровіч, беручы ад Васіліны хлеб, нож і лыжку.

— І будзем, — задорна сцвярджае яна.

— Калі Днепрагэс не затрымае, Васілінка...

Сільвестар Пятровіч па праву старшынства рэжа хлеб, раздае яго ўсім і бярэцца есці, чэрпаючы лыжкай спрытна.

— А што там, на Днепрагэсе, Сільвестар Пятровіч? — непакоіцца Алёша, махаючы перад носам гарачай лыжкай, ахутанай парай.

— Шлюзы! Ледзь пабольш твайго рота будуць, а ўсёроўна цесна, — жартам дапякае яго плытагон і прадаўжае есці, як ні ў чым не бывала.

Васіліна пырскае ад смеху; гарачая лыжка апякае губы, балюча і смешна да слёз, а сэрца перапоўнена сонцам і радасцю. Алёша, збянтэжыўшыся, выпускае лыжку, ускаквае і, спаласнуўшы яе ў рэчцы, вяртаецца на сваё месца.

— Гарачы кулеш! —хлусіць ён, чэрпаючы з катла зноў, і падміргвае Васіліне карым даверлівым вокам.

— Ліпавую захапіў-бы, — спачувальна падказвае Сільвестар Пятровіч. — Каб губы не апякала...

— Ды дзе ў нас у Ігараўскай да ліпавых? — Алёша ўскідвае рукі. — Мельхіёравых вунь у краме кольні хочаш... па дванаццаць семдзесят, а драўляныя да дзядоў ды прадзедаў адправілі.

— А ты сам выразаў-бы, — напамінае Васіліна. — І мне таксама, а то ўсе губы апякла, пакуль кулеш варыла. З жалезнай і не пакаштуеш як след.

Яна глядзіць на Алёшу шырока, адкрыта. Але той чамусьці злуецца і абыякава адзываецца скрозь зубы:

— Ладна, зраблю.

Вясновае сонца сыпле на ваду гарачыя залатыя стрэлы, быццам хоча сагрэць, асвятліць усю глыбіню, усе віры і затокі. Вада Осьмы і безымянных палявых рачулак даўно зліласся, змяшалася; вялікая паводка стаіць наўкол наколькі ахапіць вокам. Далёка па беразе бягуць новенькія тэлеграфныя слупы, рухаецца поезд. Шэры дымок паравоза чапляецца за елкі; вагоны, здаецца, можна ўмясціць на далоні.

— Запарожскія шлюзы! — Сільвестар Пятровіч уздыхае, адкладваючы лыжку на недаедзены кавалак хлеба. — Думаеш, мы там адны з табой будзем пропуску чакаць?

— Вядома, не адны, — згаджаецца Алёша, зноў памахваючы зачэрпнутай лыжкай.

— З Прыпяці, з Дзясны, з Сожа караваны ідуць. Лесу будоўлям мно-ога трэба. А праз шлюзы на Днепрагэсе больш аднаго плыта за раз не прапусціш. Вось і лічы: колькі ў чарзе пастануць?

Васіліна ўяўляе сабе бясконца доўгую чаргу плытоў, якія выцягнуліся па рэчцы ў чаканні пропуску, бачыць нават шлюзы і толькі Днепрагэс уявіць не можа. То ён здаецца ёй велізарным, да неба, палацам, залітым асляпляючымззяннем, то падобным на нейкі цудоўны завод, дзе дзень і ноч безупынку гудуць турбіны і бахаюць па жалезе цяжкія громападобныя молаты.

— А раней што там было? — пытае яна, таксама пераварочваючы лыжку на недаедзены кавалак. — Калі яшчэ Днепрагэс не пабудавалі?

Сільвестар Пятровіч выцірае губы, скручвае цыгарку.

— Раней там парогі былі. Ненасыцец, Званец, розныя іншыя...

— І тады плытам ніякай затрымкі не было? — здзіўляецца Алёша.

— Затрымкі ніякай: ляці проста да вадзянога чорта ў госці, — нявесела ўсміхаецца плытагон. — Выкарабкаешся — тваё шчасце, не павязе — наракаць няма на каго!

— А ты ганяў тады плыты, дзед?

— Ганяў, Васілінка. З бацькам сваім плыты ганяў, на вірах купаўся, звенні па бярвенцу збіраў — усяго паспрабаваў.

Вецер налятае, моршчыць паверхню ракі: цень ад хаткі ледзь накрывае парожак ля дзвярэй. А плыты плывуць, плывуць па вялікай вадзе; захапляе, сінее далячынь, і за ёю — Днепрагэс, Кахоўка, якіх Васіліна ніколі не бачыла.

— Даварні ўлева, — загадвае Сільвестар Пятровіч Алёшу. — Са стрыжня збіліся...

Алёша паслухмяна ўстае і ідзе да правіла.

— Стрыжань — галоўная жыла ў рэчцы, — крышку падумаўшы, растлумачвае плытагон. — Яго мора мацней усяго да сябе прыцягвае. І плытам па стрыжні плыць зручней. У тры разы хутчэй!

Наваліўшыся на правіла, Алёша надзімае ад натугі шчокі, чырванее. Ногі яго, здаецца, вось-вось выскачаць з шырокіх гумавых ботаў, анучы раскруціліся, вылезлі наверх.

— А да мора ты хадзіў дзед? — Васіліна ставіць на вуголле пасуду з вадой для мыцця місак, папраўляе касынку. Валасы яна расчэсвае на роўны прабор, ватоўка расшпілена, а пад ёю ружовы, у чорную гарошынку кафтанік, да твару з ружовымі шчокамі.

Сільвестар Пятровіч сочыць за тым, як кіруе Алёша, як стрыжань зноў падхоплівае плыты, толькі крутыя віхорчыкі з пенай бягуць назад.

— Ганя-яў, — задуменна адгукаецца ён, закрываючыся ад сонца далонню. — Да самага Ачакава...

І быццам ад мора зыркае цёмная сінь яго вачэй — уся ў задуменных, няўлоўных іскарках.

Вада нагрэлася. Васіліна мые лыжкі,кацёл і думае пра мора, пра вялікае Дняпро і пра малое сваё жыццё. Ёй хочацца, каб яно таксама было, як Дняпро, — вялікім, поўным да краёў. Васіліне амаль восемнаццаць год, а што яна бачыла, што ведае? Высачаны ды Чырвоны Бор, ды зруйнаваны вайной Дарагабуж, куды ездзіла паступаць у тэхнікум.

«Дзе толькі дзед ні бываў, — разважае яна, выціраючы пасуду каля агню. — І ў Польшчы, і ў Кітаі, і плыты па ўсяму Дняпру ганяў. Паслухаеш яго — розуму набярэшся».

А Васіліна хоць і ведае ўсе моры, рэкі, краіны і гарады, але нічога не бачыла...

Алёша аглядваецца на яе. Круглы яго твар з невялікай радзімкай на шчацэ таксама паспеў загарэць ад сонца і ветру, русая пасма выбілася з-пад шапкі. Ён не з Высачанаў, а аднекуль з-за Халма і пасябраваў з плытагонам яшчэ ў лесе, на дзялянцы. Збіраючыся весці караван, Сільвестар Пятровіч узяў Алёшу з сабой на галоўны плыт. Невядома, ці то ён хацеў навучыць хлопца свайму любімаму рамяству, перадаць усё, што ведаў і ўмеў сам, ці то марыў пра другое. Так думалі людзі, а Сільвестар Пятровіч з болем адчуваў, што ні Алёша ні Васіліна не маглі замяніць яму сына Сяргея, што толькі аб ім сумавала і пакутавала асірацелая яго душа.

— Шпарка плывем! — крычыць Алёша. — Пасля куляшу чайку-б гарачага...

— Трымай, трымай па стрыжню, — абрывае яго плытагон. — А то, чаго добрага, на вобмель, на касу зацягне.

— Не заця-ягне, вада вялікая, — пярэчыць, бадзёрачыся, Алёша. — Я тут, на Осьме, усе месцы ведаю!

— Ад вялікай вады чакай вялікай бяды. — Сільвестар Пятровіч падыходзіць, бярэцца за правіла, з натугай паварочвае яго. — Асцярожнасць, брат, ніколі не лішняя. Трымай вось так, а я пайду адпачну крыху... Разбудзіш, калі да Спасу-на-Дняпры падыйдзем, — загадвае Алёшу Сільвестар Пятровіч і, зябка сагнуўшыся, ідзе ў хату, Там у адным кутку на засланым пасцілкам палку старчма стаіць прыбраная, з шырокімі прошвамі падушка Васіліны, а ў другім ляжыць яго стары раманаўскі кажух.

Алёша дзяжурыць ля правіла, шырока, як бывалы плытагон, расставіўшы ногі, і ўдзячна думае пра парторга калгаса, які дапамог яму трапіць на дзялянку, пра начальніка ўчастка, пра Сільвестра Пятровіча. Прыгоніць ён караван, атрымае грошы. Самому Алёшу нічога не трэба, а маці і братам ён абавязкова прывязе па абноўцы, як прывозіў, бывала, бацька, калі жыў з імі да вайны.

Высока ў небе ляціць ключ гусей. Яны таксама, відаць, трымаюцца шляху па рацэ, ад затокі да затокі, і ляцяць з тых далёкіх і цёплых краёў, куды плывуць плыты.

— Гусі, зірні!.. — Алёша аглядваецца і шукае навокал Васіліну. — Хадзі сюды! Зірні! Гусі да нас у Ігараўскую паляцелі....

— Бачу, — адгукваецца тая і, падышоўшы да Алёшы, глядзіць угару. — А нядаўна журавы клінам ляцелі, бачыў?

Потым Васіліна садзіцца, падабраўшы калені да падбародка. Алёша аглядае яе здзіўленым позіркам і нечакана ўздыхае. Васіліна аглядаецца, ловіць гэты позірк, і абое яны, незразумела збянтэжыўшыся, змаўкаюць, не гледзячы адзін на аднаго і баючыся хвалюючага гэтага маўчання больш, чым любой размовы.

Васіліна маўчыць, думае аб чымсьці сваім. Здаецца, нібы яна пакрыўдзілася, а за што — і сама як след не ведае. Не таму, што Алёша не надта гаваркі, больш маўклівы, не. Яна крышку рэўнуе Алёшу да дзеда, але не паказвае гэтага, баючыся, каб той не ўгадаў чагосьці яшчэ..

Ні адна вясна не здавалася Васіліне такой незвычайнай і хвалююча радаснай, як гэтая. Гады два таму назад яна была зусім яшчэ наіўнай і прастакаватай дзяўчынкай, ніхто на яе не звяртаў увагі, а маці ні ў чым не давала спуску і сварылася то за нямытую пасуду, то за тое, што не дала есці парасяці. А цяпер, пасля сямігодкі, Васіліна раптам

выцягнулася, пастрайнела, стала пільнай і гаспадарлівай чыста па-жаночаму. І суседкі, заходзячы чаго-небудзь у хату, здзіўлена казалі:

— Зірні, Варка, гэта-ж дачка ў цябе на выданні становіцца.

— Хоць у адзін дзень абедзвюх вас замуж аддавай!

Маці адмахвалася, гневаючыся:

— Хопіць вам! Дзяўчынцы яшчэ вучыцца трэба...

Яны былі падобны адна на адну, і пабочныя часта лічылі іх за сёстраў. Нават Сільвестар Пятровіч, прыходзячы з лесу ў нядзелю, аглядваў Васіліну, хмурыўся:

— От каб паглядзеў Сяргей, якая дачка ў яго вырасла... Усім узяла — і розумам, і хараством. Не дайду толькі: у каго яна ўдалася? У мяне, напэўна...

Маці, усхліпваючы, ішла куды-небудзь па гаспадарцы, а Васіліна грэла дзеду лазню і, глядзіш, напявала ўжо якую-небудзь песеньку ці бралася за кніжку. І хоць бацька не мог паглядзець, палюбавацца ёю, Васіліну не кранала гэта так, як маці і дзеда.

Ярка свяціла сонца, зеленела трава, шумеў вецер, і жыццё з кожным днём здавалася ўсё больш цікавым і цудоўным, як свята, якое, пачаўшыся аднойчы, ніколі не канчаецца. Васіліна сярдзіта абзывала сябе дурніцай, бессардэчнай пустальгой, старалася не думаць пра гульні і заракалася не хадзіць на танцы; але варта было зайграць радыёле ў клубе ці заспяваць дзяўчатам, як яна забывалася на ўсё і апыналася між сябровак.

А гэтай вясною галава ў Васіліны і зусім закружылася. Што сказала-б маці, калі-б дазналася, што першае каханне не абмінула і яе дачку. Васіліна закахалася спачатку ў прыезджага лектара, які выступаў у клубе з дакладам аб дружбе, каханні і сям'і, а крышку пазней, быццам дзеля насмешкі над тым, у што верыла пасля яго лекцыі — у раённага агранома, вечна заклапочанага, сямейнага чалавека, якога зналі і паважалі ўсе ў раёне.

Было ад чаго ўпасці ў роспач, але каханне, як кажуць, ліхое — пакахаеш і таго, каго не думаеш і не збіраешся. Некалькі дзён Васіліна насіла ў сабе гэтую стрэмку. Лектар, якога яна яшчэ раз схадзіла паслухаць у суседняе сяло, слова ў слова паўтарыў свой даклад і там, з тымі-ж жартачкамі і многазначнымі паўзамі, і Васіліна, пачуўшы ўсё гэта, абразілася, выйшла прыгнечаная і ўколатая ў самае сэрца. Яна быццам разменяла вялікае сваё пачуццё і нечакана адчула палёгку. А аграномава жонка павезла з лабараторыі ў бальніцу. Гаварылі, што ў яго абвастрэнне язвы і нават збіраліся рабіць аперацыю. Васіліна паспрабавала ўгаварыць дзяўчат пайсці ў раён наведаць яго, але аказалася, што агранома адвезлі не ў Холм, а ў Смаленск і невядома куды паклалі.

Агонь, апякаючы яе, не мог гарэць сам па сабе. Васіліна хутка забылася на лектара і агранома і доўга не давала волі сэрцу. Але, апынуўшыся на плытах, яна ўсё часцей заглядала на Алёшу Балыкіна, і, даўшы сабе абяцанне быць сталай, дарослай, сур'ёзнай і недаступнай, у глыбіні душы адчувала: пакліч яе Алёша ў Кахоўку, на Волга-Дон ці яшчэ куды — не вытрывае і пойдзе хоць на край свету.

А плыты плывуць, плывуць па вялікай вадзе, мінаючы лугі, новыя калгасныя сёлы.

Справа, на высокім берагавым узгорку асляпляюча бліскае жалезнымі пер'ямі казачнай птушкі рухавік-вятрак. За ім у шарэнгу выроўніваюцца новыя дамы, канюшня, свіран і яшчэ нейкія пабудовы.

— Спас-на Дняпры! — пазнае Алёша і загадвае Васіліне разбудзіць Сільвестра Пятровіча. — Дняпро!

Ён углядаецца ў далячынь, дзе сярод голых, шырокіх палёў ходзяць, пакідаючы за сабою сізы дымок, трактары.

Сільвестар Пятровіч сонна пазяхае, паказваецца ў дзвярах хаткі. Твар яго заспаны, барада, нібы кудзеля.

— Толькі ў самую ахвоту сон агарнуў, — скардзіцца ён, прывычна і пільна аглядваючы, ці ўсё ў парадку на плытах і на рацэ. — Бач ты, як спасаўцы адбудаваліся... не пазнаць.

Плытагон становіцца да правіла. Алёша бярэ жэрдку, збіраючыся вымераць глыбіню вады на касе.

— Дняпро! У Вялікі Дняпро Осьма ўвайшла, — усхвалявана махае ён рукой, а Сільвестар Пятровіч накіроўвае плыты на сярэдзіну ракі, і сонца, якое свяціла яму ў вочы, перасоўвае цень ад хаткі направа.

Ззаду за плыт прывязана лодка. Васіліна моўчкі адвязвае яе, садзіцца і, адштурхнуўшыся, вяслуе насупраць плыні да выходзячых на Дняпро плытоў каравана.

— Васілінка, пачакай! — крычыць, аглядваючыся, Алёша. Але яна не адгукаецца, грабе вяслом — толькі пена бяжыць з-пад яго і знікае на плыні.

На другім плыце стаіць выгараўшая ад сонца палатняная палатка; грае гармонік. Камсамольцы Сцяпан Ермакоў і Жэнька-Яфрэм, разаслаўшы на дошках чырвонае палотнішча, пішуць разведзенай крэйдай:

«Больш лесу будоўлям Радзімы!»

Сцяпан Ермакоў — добры таварыш і калгасны актывіст. А Жэнька-Яфрэм — такі вясельнік і баламут, што лепш з ім не звязвацца. Завуць яго Яфрэмам але, знаёмячыся з дзяўчатамі, ён заўсёды заве сябе Яўгенам і патрабуе, каб яго звалі толькі так. Другое імя, аднак, не прывілося, і ў Высачанах усе завуць яго не Яўгенам, а Жэнькай-Яфрэмам.

Прывязаўшы лодку, Васіліна падыходзіць да іх. Сцяпан Ермакоў адсоўваецца, адразу знаходзіць ёй работу.

— Патрымай, — глухавата кажа ён, паказваючы, дзе належыць прыціснуць чырвонае палотнішча, каб яно нацягнулася як мага тужэй.— Расцягвай, расцягвай! — заклапочана азірае Васіліну разумнымі, прамікнёна шэрымі вачыма. — Ну, як там у вас? Сільвестар Пятровіч начаваць у Дарагабужы не збіраецца?

— Не ведаю. Пішы далей, — нягучна адказвае Васіліна, старанна расцягваючы палотнішча.

— Не каешся, што паехала?

— Ну, што ты? Вось яшчэ выдумаў!

А Жэнька-Яфрэм ставіць на дошку баначку з крэйдай і спрабуе жартаўліва абняць госцю.

— Перабірайся лепш да нас, Васіліна! У нас тут ве-е-села, — нараспеў кажа ён. — У палатцы пацяснімся, месца знойдзем!

Васіліна адштурхоўвае яго, баначка з мелам перакульваецца. Вада паміж бярвеннямі адразу становіцца падобнай на малако, а Сцяпан Ермакоў усхопліваецца і злосна крычыць на Жэньку-Яфрэма:

— Вось дурыла! Колькі разоў табе казаў: не прыставай да дзяўчат!

Вочы ў Жэнькі-Яфрэма вінавата бегаюць.

— Ну вось, па-таварыску падыйсці нельга. Падумаеш, якая!

Падняўшы баначку, ён зачэрпвае паміж бярвеннямі малако, пальцам размешвае крэйду, што асела на дне, і як ні ў чым не бывала прапаноўвае:

— Давайце дапісваць, ці што. А то пара шнуры правяраць...

Сцяпан Ермакоў і Васіліна бяруцца дапісваць палотнішча, а Жэнька-Яфрэм выносіць з палаткі вядро і накіроўваецца правяраць шнуры, закінутыя з плыта.

— Можа зловіцца што-небудзь? — усміхаецца ён, паказваючы нябуйныя, рэдкаватыя зубы. — Вечарам цябе юшкай пачастую, Васіліна.

— Не трэба мне тваёй юшкі, — адказвае тая, робячыся чырванейшай за касынку, але Жэньку-Яфрэма не збянтэжыш. Памахваючы вядром у лад гармоніку, ён напявае:

— Не дай божа, не дай божа, дзяўчат маленькіх кахаць! Цалавацца-нагінацца паясніца забаліць...

— Ох, і дуралом! — нязлосна кідае Сцяпан Ермакоў. — Ты на яго не звяртай увагі, Васіліна. Комсамол не такіх перавыхоўвае, разумееш?

Нарэшце, усё дапісана. Клічнік, праўда, больш падобен на бутэльку, перавернутую дном уверх, а кропка — на тоўстую, тлустую кроплю, што вылілася з яе, але гэта не мае значэння. Па Дарагабужы караван пройдзе не проста так, а ўрачыста, з пераходным чырвоным сцягам, які прысуджаны ўчастку за перавыкананне квартальнага плана нарыхтовак, з палотнішчам і музыкай, як належыць перадавікам.

Падумаўшы, Сцяпан Ермакоў вырашае:

— Сцяг вы ўзнімаеце ў сябе на плыце, а палотнішча мы разгорнем тут. Здарова атрымаецца! — і ўсхвалявана выпростваецца — хударлявы, невысокі, у накінутым на плечы кажушку і гумавых ботах. — Як чырвоны абоз, што з хлебам на станцыю ўвосень выпраўлялі.

— Плыт — гэта тое-ж самае, — згаджаецца Васіліна. — Толькі не з хлебам, а з лесам...

— Васіліна! — крычыць Жэнька-Яфрэм. — Раскладай агонь, будзем юшку варыць! Гляньце, замест шчупакоў, што выцягнуў! — і знімае са шнура двух фіялетава паблісквающых луской акунькоў і галавастага чорнага соміка.

Сцяпан Ермакоў выносіць з палаткі сцяг, праводзіць Васіліну да лодкі.

— Глядзі-ж, як толькі Дарагабуж пакажацца, узнімайце вышэй, каб ветрам яго расхіснула! — наказвае ён, прытрымліваючы лодку, якая, пакуль Васіліна садзіцца, калышацца на вадзе. — Няхай увесь народ бачыць...

— Абавязкова, — абяцае яна. — Мы яго над хаткай прымацуем!

Дарагабуж сустракае караван амаль надвячоркам. Ціхія яго сады і агароды, што схіляюцца да вады, затоплены; на новым высокім мосце стаўпіўся народ. Свята вясны, свята паводкі выцягнула ўсіх пад вольна раскінутае ў бэзавых змроках неба, да разліва на рэчцы. Чыгуначная станцыя злева здаецца востравам, вада падышла да самага палатна; усё зарэчча да далёкіх вартавых елачак на небасхіле гарыць і пераліваецца ў праменнях заходзячага сонца, як велізарны, поўны жывога, барвовага полымя кубак.

Перадвячэрні, свежы ветрык расхіснуў сцяг; ззаду, на другім плыце, палыхае чырвонае палотнішча.

Сільвестар Пятровіч стройна стаіць, глядзіць на горад, на вуліцы і на людзей на мосце. Хлапчукі бягуць па беразе ўслед за караванам, крычаць ва ўсе галасы:

— Плыты! Плыты!

— Больш лесу будоўлям Радзімы...

— З бельскіх лясоў, мабыць. І бач ты, хатка сапраўдная, з акенцамі!

Сцяпан Ермакоў загадвае гарманісту іграць самыя вясёлыя маршы, і людзям на мосце, напэўна, здаецца, што плысці на плытах па вольнай вясновай рэчцы вельмі весела і захапляюча. Яны махаюць рукамі плытагонам, а калі караван праходзіць пад мастом, нехта крычыць:

— Прывітанне бельскім лесарубам!

Алёша Балыкін стаіць на другім баку правіла, усхваляваны і горды, што разам са старым плытагонам вядзе караван. Перад усімі ён здаецца яшчэ вышэйшы, дужэйшы. Васіліна не зводзіць з яго здзіўляюча-радаснага, зачараванага позірку.

Горад застаецца ззаду. У густых змроках агні яго гаснуць адзін за адным. Высокі бераг насоўваецца, засланяе іх; рака непрытульна цямнее, нясмелыя зоркі дрыжаць, запальваюцца, паблісківаюць у непраглядней яе глыбіні.

На суседнім плыце Жэнька-Яфрэм варыць юшку. Полымя агню, адлюстроўваючыся ў вадзе, палыхае барвовым бляскам, асвятляе твары хлопцаў што сабраліся каля палаткі. Прыемны пах свежай рыбы сцелецца па рацэ.

Потым упоцемку чуецца ўсплёск вясла, паказваецца востры нос лодкі. Жэнька-Яфрэм, звонячы ланцугом, выскаквае на плыт з бачком, які дыміцца ў руках.

— Юшкі, Сільвестар Пятровіч, — прапаноўвае ён з павагай. — Сомік невялічкі папаўся сёння ды акунькоў з дзесятак. Пакаштуй: ці смачная?

Пакаштаваць можна, — Сільвестар Пятровіч запальвае ліхтар на плыце, каб відзён быў стрэчнаму караван, хоць наўрад ці хто можа ісці ўверх па рэчцы, і вяртаецца да агню.

Васіліна ўжо дастала лыжкі, хлеб.

— Лаўровага лісту паклаў? — цікавіцца плытагон, перш чым узяцца за лыжку. — Трэба, каб ён сырасць рачную адбіў...

Нахіліўшыся, ён каштуе лыжку, другую, задаволена крышыць скарынкі ў міску і есць.

— Ну, як? — пераможна трасе галавой Жэнька-Яфрэм. — Добрая?

— Дай даесці, тады пахвалю, — жартам кідае плытагон. — Запытайся лепш у нашага шэф-повара...

Жэнька-Яфрэм звяртаецца да Васіліны:

— А табе падабаецца?

— Падабаецца! — задорна адказвае тая. Яна і сама не ведае, чаму вырашыла раптам забыць усё і загаварыць з Жэнькай-Яфрэмам, — ці то каб падражніць Алёшу, ці то проста такі ўжо у Васіліны характар, што не ўмее яна доўга злавацца, памятаць крыўду.

Аднак Алеша есць моўчкі, нічым не выдаючы сябе. Лыжка яго зрэдку цвякае аб край міскі.

— Наведайся заўтра, я яшчэ на ўсю ноч шнур закінуў, — запрашае Васіліну Жэнька-Яфрэм і зусім ціха дадае: — А за тое, што пажартаваў нядаўна, не злуйся, ладна?

— Ладна, — крышку падумаўшы, згаджаецца Васіліна. Невядома ад чаго — ці ад рэчкі, ці ад сініх змрокаў, ці ад чаго яшчэ — салодкі, пранізлівы боль упершыню сціскае яе сэрца. Васіліне робіцца шкада сябе, шкада ўсіх, і, думаючы пра сваё, яна разумее, што кахае, здаецца, аднаго толькі Алёшу, а Жэньку-Яфрэма толькі так.

Але той не здагадваецца аб гэтым і зноў просіць яе не злавацца, наведацца заўтра.

— А то магу яшчэ печанай рыбай пачаставаць, на вуголлях, — выхваляецца Жэнька-Яфрэм, бліскаючы пры святле агню хуткімі, зыркімі вачыма. — Сільвестар Пятровіч, ты калі-небудзь печаную рыбу еў?

— Пачастуеш, дык з'ем, — пасміхаецца плытагон. — На ражончыку таксама някепска яе падсмажыць. Але лепш на патэльні ў масле!

— І-і, — з захапленнем смакуе Жэнька-Яфрэм, прытвараючыся знатаком і любіцелем; але, па праўдзе кажучы, ён ахвотней есць мяса, хоць хваліць рыбу і ведае трыццаць тры спосабы, як ашукаць яе ў любую пару года.

Алёша сядзіць моўчкі, стругаючы штосьці ножыкам-складанчыкам, і не прымае ўдзелу ў гутарцы. Выхваленне Жэнькі-Яфрэма, відаць, не падабаецца яму, але ён выгляду не паказвае

Тонкі, ясны маладзічок адлюстроўваўся ў вадзе, і на Васіліну дыхала юнацтвам, свежасцю, чымсьці такім, ад чаго сэрца здавалася перапоўненым да краёў і нават злёгку паколвала.

Даўно была пара прыстаць да берага, распаліць вогнішча і заначаваць. Але Сільвестар Пятровіч завіхаўся мінуць Кабябляцкі парог пад Оршай, пакуль не спала вада.

Ноччу ён сам стаў ля правіла, пільна ўглядаючыся ў туманна-зыбкую далячынь ракі, прыслухоўваючыся да гаворкі вады пад плытамі. Мелі і перакаты былі затоплены, і ён не баяўся іх, стараўся толькі не збіцца са стрыжня, а ваду ўпусціш — не дагоніш, як потым ні старайся.

Яшчэ больш, чым днём, Васіліне падабалася ноччу сядзець на носе плыта, зусім-зусім адной, гледзячы, як цёмная хмара плытом накрывае адну за другой зоркі ў рацэ, і марачы аб тым, чаму парой не падбярэш і назвы. Быццам чакаючы чагосьці, яна бавілася ўвесь час, пакуль не змерзла, і, не дачакаўшыся, пайшла спаць.

У хатцы было цёпла, утульна, пахла смалой, аўчынай; новыя боты, што даў ёй у дарогу дзед, таксама пахлі гумай і шкіпідарам. Сагрэўшыся, Васіліна заплюшчыла вочы. Усё паплыло-паплыло перад ёю — рака, бярозкі ў вадзе, вуліцы Дарагабужа, народ на мосце, — і яна заснула моцна і соладка, як спіцца толькі ў восемнаццаць год.

А плыты ўсё таксама плылі і плылі па Вялікім Дняпры.

Раніцай Васіліна прачнулася ад крыку.

— Эй, кана-ат... канат адпусці!

Сільвестар Пятровіч прасіў кагосьці злосна і нараспеў. Васіліна вышла з хаткі і ўбачыла, як па Дняпры гуськом плывуць бярвенні, то стукаючыся, то абганяючы адно другое, збіваючыся каля берагоў. У адным месцы, дзе плынь у затоцы кружылася шырокім і павольным кругам, яны, завярнуўшыся назад, цягнуліся ўверх па рэчцы, імкнучыся выбіцца зноў на дарогу, і бездапаможна тыкаліся то туды, то сюды, як сляпыя. Гэта недзе, мабыць, у вярхоўі, падмыла на румах лес, або раскідала плыты.

Сцяпан Ермакоў раз'язджае па разліве і збірае брадзячы лес. Сур'ёзны, заклапочаны, ён падобны на рачнога гаспадара і, аглядаючыся, падганяе Жэньку-Яфрэма:

— Вяжы, вяжы да плыта! Не кідаць-жа лес без толку.

Алёша таксама падабраў, прывёў некалькі бярвенняў. Нягледзячы на тое, што не спаў ноч, ён быў бадзёры і вясёлы.

— Амаль цэлае звяно сабралі, — радасна расказвае ён Сільвестру Пятровічу, прывязваючы лес да плытоў. — І газетку табе ў пісьманосцаў выпрасіў. Вось яна...

— Гаспадары, значыць! Аддай Васіліне, пачытае пасля. — Плытагон зноў аглядае караван.

— Ідзі пагрэйся, — шэпча Алёшу Васіліна, міжвольна чырванеючы. Рукі ў Алёшы чырвоныя, шурпатыя ад вады. — Зараз я яешню спяку.

— Чаю, ды каб пагусцей...

— І чаю згатую.

— Пазней, калі Сільвестар Пятровіч драмаў пасля снядання, а Васіліна ўпраўлялася ля агню, апякаючыся і дзьмухаючы на варыва, Алёша нечакана працягнуў ёй падарунак — лёгкую ліпавую лыжку.

— Вось табе, вазьмі, — рашуча прамовіў ён. — Учора ўвесь дзень выразаў...

— Дзякую, — зачырванеўшыся ад задавальнення, сказала Васіліна. Лыжка была якраз дарэчы. — Ну, пакаштуй, бульба разварылася? — прапанавала яна Алёшу, зачарпнуўшы ў катле, дзе варыўся абед.

— Не, ты першая, — адмовіўся Алёша. — Ты гаспадыня...

Васіліна засмяялася.

— Не хочаш адзін, давай разам!

Алёша здзіўлена ў непаразуменні паглядзеў на яе гарачымі глыбокімі вачыма.

— Давай. Толькі як?

— А вось так... пробуй!

Яны пацягнуліся да лыжкі з двух бакоў, смеючыся чагосьці і блізка-блізка гледзячы адзін аднаму ў вочы. Кашаль у хатцы прымусіў іх адскочыць у бакі; лыжка выпала, раскалолася.

— Ой, бяда, — апамятаўшыся, прагаварыла Васіліна. — Дзед бачыў усё...

Алёша задзірліва агляну́ўся на хатку.

— Бачыў, і няхай, — цвёрда нетаропка прамовіў ён, — не к бядзе, к шчасцю!

Высокі чыгуначны мост трымаў над ракой узорныя свае карункі. Цень ад яго, як выразаны, ляжаў наўкось. Было дзіўна глядзець, як цягнік, адлюстроўваючыся ў вадзе, пераходзіў мост, ахутваючы фермы ватнім цэпкім дымком, будзячы на ветры жалеза і клікаючы кагосьці вясёлым, пранізліва-залівістым гудком.



Янка **НЕПАЧАЛОВІЧ**

## Новая кватэра

Мне ключы ад новае кватэры
Уручылі сёння назаўжды.
Белы дом стаіць пры шумным скверы
Паміж ліп і клёнаў маладых.

Адшукаўшы нумар, адмыкаю
Я сваю кватэру паглядзець...
Бачу, што святліца тут такая,
Дзе ўсё кліча жыць ды песні пець.

Пад каштан падлога фарбавана,
Сцены, столь — бялейшыя за снег;
Ледзь рукою дакрануўся крана —
З-пад яго струмень вады пабег...

Буду колькі змогі ёсць старацца,
Каб у доме ведалі усе,
Што святліцу заслужыў я працай,
Што у іх законны я сусед.

Увайшоўшы ў гэтыя пакоі,
Новы я пераступіў парог,
І адчуў: змагу зрабіць такое,
Аб чым марыў, ды зрабіць не мог!

— Сокалава гара! — выглянуўшы, растлумачыў Сільвестар Пятровіч. — Цяпер Смаленск — рукой падаць...

Стоячы ў галаве плытоў, ён глядзеў на раку, якая крута абгінала высокую, пароcлую кустамі гару.

— Які лес быў, які бор! Усё вайна звяла...

З-за гары раптам паказаўся шырокі, заліты да краёў луг, а за ім на далёкіх і крутых узгорках зубцы і вежы старажытнай замкавай сцяны, блакітная званіца сабора, які ўзнёсся пад аблокі, дзіўныя і няясныя абрысы вялікага горада. Васіліна глядзела на яго і не магла адвесці позірку. Як казачнае арлінае гняздо, высока віднеўся ён з каменным сваім поясам, і ні вайна, ні ворагі не маглі знішчыць гордую яго прыгажосць.

Не так і не такім уяўляла сабе Смаленск Васіліна, але нават і такі, зруйнаваны і спалены, адноўлены і жывы, ён быў дарагі да болю і цудоўны, як заўсёды. Па ўзгорках, па ярах ляпіліся, узбягаючы наверх, новыя дамы, гарэлі на сонцы вокны, чыгунка падыходзіла амаль да самай ракі, пуці веерам разбягаліся ўдалячынь.

А Сільвестар Пятровіч глядзеў на Смаленск і думаў пра Вялікі Дняпро, пра электрычныя станцыі, якія неўзабаве вырастуць на яго берагах — тут, пад Смаленскам, і ніжэй — у Беларусі. Вада ўзнімецца, напоўніць берагі амаль, як у час паводкі. Не страшнымі тады будуць ні мелі, ні перакаты, ні парогі, пойдуць па ўсім Дняпры вялікія быстраходныя параходы не толькі да Смаленска, а і вышэй — у Дарагабуж і Спас. Шырока разальюцца па берагах электрычныя агні, і да самага Чорнага мора зарава іх асвеціць гарады і сёлы, землі і лясы.

Вясной мінулага года ганяў ён плыты сюды ў Смаленск. А цяпер — не крыўдуй, родны горад, — Сільвестар Север'янаў вядзе караван далёка-далёка на поўдзень, туды, дзе на дняпроўскіх берагах будуецца нябачаная гідраэлектрастанцыя, адна з тых, што скора памалодзяць стары Дняпро ад вусця да вярхоўяў.

Пад трамвайным мастом вада памчалася, як шалёная. Сільвестар Пятровіч з усіх сіл налёг на правіла, стараючыся ўтрымаць плыты на стрыжні. Алёша і Васіліна кінуліся з жэрдкамі на нос плыта.

Мост яны праскочылі без аглядкі. А на ім, як і ў Дарагабужы, таўпіўся народ.

Маленькі, цесны садок за мастом быў увесь у вадзе. Рыначную плошчу заліло па самыя лазні.

Далей увесь правы бераг пакрылі прыгнаныя на лесапільны завод плыты. Па шырокім насціле, які спускаўся з берага да вады, бесперастанку хадзілі ўверх і ўніз ланцугі-самацегачы, што падхаплівалі бярвенне, а на двары пад паветкай раззлавана енчыла цыркулярка-піла, як быццам ёй увесь час нехапала чагосьці і яна скардзілася, што яе крыўдзяць.

За Смаленскам мінулі Серабранку і Гняздова, а падвечар, ля Катыні, па вадзе пракаціўся працяжны гудок. Невысока над берагам з-за павароту паказаўся чырвоны акольшы параходнай трубы. З яе папыхваў шэры, рэдкі дымок.

Параўняўшыся, параход коратка прагудзеў, вітаючы караван. Радыёла зайграла марш. З усіх сіл працуючы калёсамі проці плыні, параход схаваўся за паваротам. Спалоханыя хвалі доўга пляскалі ў далоні, набягаючы на плыты, быццам ім было весела ад музыкі і ажыўлення на рацэ.

А Сільвестар Пятровіч марыў і апавядаў усхвалявана, горача:

— Ні адна вобласць за вайну так не адпакутавала. А зямля наша смаленская не горш іншых. Пяскі ў пустынях і то, вунь, ажываюць, а нашы землі толькі ворагі ды гультаі неўрадлівымі лічылі. І нам ужо, магчыма, не дажыць, а вы, маладыя, сваімі вачыма пабачыце: будуць на Смаленшчыне электрычныя трактары араць! Будзе і ў нас пшаніца паводкай шумець!

Нанач плыты супыняюцца каля невялікага сялца, якое раскінулася на высокім, абрывістым беразе. Пасярэдзіне яго ўзвышаецца новы, недавершаны будынак — ні то клуб, ні то сельмаг; вокнамі на рэчку глядзяць дамы.

— Ці не краму ў Белакарэнні пабудавалі? — здзіўляецца Сільвестар Пятровіч. — Усё-ж тут зруйнавана было, а цяпер бач!

Алёша бярэ калы, едзе з Васілінай на бераг. Там яны ўбіваюць іх у зямлю, накідваюць канаты. Звенні падцягваюць да берага і прывязваюць.

Услед за імі прыстаюць Сцяпан Ермакоў і Жэнька-Яфрэм, а потым падыходзяць астатнія плыты каравана. Сільвестар Пятровіч задаволены. Самая цяжкая частка дарогі пройдзена. Ні расплёткі, ні страт не здарылася, нават на мель ніхто не сеў; толькі на адным з плытоў парвала звязкі пры ўдары аб маставую апору ў Смаленску. Ад радасці можна адпачыць, а заўтра плысці далей.

У зацішку пад берагам раскладаюцца агні, варыцца вячэра. Плытагоны абмяркоўваюць далейшы маршрут.

На беразе шумліва, як заўсёды ў час супынак.

Моладзь з гарманістам пасля вячэры ідзе на гулянку ў Белакарэнне, а дзед застаецца сачыць за вадой. Вярнуліся маладыя пад раніцу. Гарманіст прыкметна стаміўся, ледзь перабірае лады. Сцяпан Ермакоў голасна спрачаецца з комсамольцамі аб тым, ці можа дружба замяніць каханне, а Жэнька-Яфрэм застаўся ў Белакарэнні праводзіць нейкую маладзіцу.

Алёша з Васілінай, сарамліва абняўшыся, ідуць, далёка застаўшыся ззаду, глядзяць на месяц, слухаюць, як замаўкае ўпоцемку сяло, як кракаюць дзесьці качкі. Сэрцы б'юцца ў лад, хочацца сказаць многае-многае, раскрыць душу. Але і маўчаць таксама нявыказна хораша, быццам так шчасце, як песня без слоў, гучыць мацней. І яны маўчаць, цалуюцца, смяючыся з кожным разам, пакуль губам не становіцца балюча і горача.

— Дзіўна, Васіліна, — Алёша заглядае ёй у вочы, беражліва абнімае. — Нікога я не кахаў яшчэ. Цябе першую. А ты?

— Я лектара зімой сёлета кахала, — з бесклапотнай адкрытасцю прызнаецца Васіліна. — А потым — агранома...

— Жанатага?

— Я не думала, што ён жанаты, — Васіліна смяецца. — Зусім дурніца была, лічыла, ён да трыццаці год у хлопцах ходзіць...

— А Жэньку-Яфрэма кахаеш? — рашыўшыся, раптам пытае Алёша.

— А што?

— Глядзі, лепш не кахай, — насуплівaецца ён. — І юшку яго не еш...

Васіліна змаўкае, думаючы штосьці. Вочы яе свецяцца шчасцем, грудзі ўздымаюцца высока, парыўвіста. Прыўстаўшы на цыпкі, яна абдымае Алёшу і цалуе яшчэ раз — моцна-моцна, без адрыву, пакуль той не задыхаецца.

— Дурненькі ты, рэўнюшчы, — шэпча яна, пераводзячы дыханне і зноў прыпадаючы да яго. — Цябе аднаго я кахаю, першы-першы, самы першы раз, а яго — толькі так...

— І так не трэба, — незгаворчыва мармыча Алёша. — Я не хачу.

Першы раз Васіліна вінавата пракрадвалася на сваё месца ў хатцы, баючыся патрывожыць, разбудзіць дзеда, першы раз засынала, усім сэрцам адчуваючы, што яе кахаюць. І нічога не трэба было гэтаму першаму каханню, акрамя яе самой, акрамя гэтай перапоўненасці віны і шчасця.

А Алёшу сніўся Вялікі Дняпро. Ён быў, як дарога жыцця, і плыць па ім з Васілінай здавалася радасней за ўсё, а ззаду іх даганялі прыезджы лектар і аграном, трыццацігадовы мужчына, які прыкідваўся ні то хлапчуком, ні то Жэнькам-Яфрэмам.

На світанні рака задымілася ў тумане; берагі пакрыліся імглой, зніклі. Толькі качкі кракалі, будзячы сонца, ды кашлялі, мыючыся, плытагоны.

Сільвестар Пятровіч камандаваў зборамі. Абыходзячы караван, ён наказваў аб астравах, перакатах і паваротах на шляху, дзе плынь кідаецца з аднаго боку ў другі і трэба быць увесь час насцярожаным каб плыты не разбіла з разгону аб кручу.

Калі паплылі плыты сваёй дарогай, чырвоны агеньчык сцяга загараўся на сонцы; туман паднімаўся, радзеў, і вада ў рацэ станавілася блакітнай, быццам неба дабаўляла ў яе яснага і бяздоннага свайго колеру.

Васіліна ўсё яшчэ спала, падкурчыўшы пад коўдрай ногі. Яе патрэсканыя губы спрасонку варушыліся.

Увайшоўшы ў хатку ўзяць тытуню, Сільвестар Пятровіч глянуў на ўнучку і, міжвольна ўздыхнуўшы, падумаў:

«Эх, Сяргей, Сяргей, становіцца на выданні твая дачка! А ты, сынок, і не паглядзіш на яе...»

Пераклад з рускай мовы.



# АДПАЧЫНАК *на* ЎЗМОР'І



Шэсцьсот кіламетраў аддзяляе сталіцу Беларусі ад гэтага прыморскага курортнага гарадка, які тоне ў зяляніне садоў і паркаў і справядліва названы Зеленаградскам. Аднак галоўнае, што прыцягвае сюды людзей — гэта мора.

Балтыка... «Кухня надвор'я»— часта называюць яе сіноптыкі. «Крыніца сіл, бадзёрасці, здароўя», — гавораць аб моры ўсе, хто праводзіць тут свой вольны час.

У Зеленаградску некалькі дамоў адпачынку і санаторыяў. І сярод іх наш, беларускі дом адпачынку, зімой і летам гасцінна адкрыты для жаданых гасцей.

Вось група нашых землякоў толькі што сышла з цягніка і ступіла на прыморскую зямлю.

— Вось яна, Балтыка! — усклікнула мінчанка Е. Трэгубовіч. І яна, і яе таварышы, як зачараваныя, глядзелі на мора. Супрацоўніца адной з мінскіх лабараторый В. Рамашэўская, настаўнікі з Магілёўшчыны П. Махленкоў і І. Недасекін, іх калега са Слуцка А. Масюк, як і многія іншыя, прыехалі на ўзмор'е пасля года напружанай працы. Іх чакаюць светлыя пакоі ўтульных памяшканняў, алеі курортнага парка, пляж, пругкія марскія хвалі.



У старажытнасці Балтыку называлі Бурштынавым морам. Тут, непадалёку ад Зеленаградска, знаходзяцца буйнейшыя ў свеце месцанараджэнні бурштыну. Здабыча бурштыну вядзецца прамысловым спосабам у вялізных кар'ерах. Але нямала яго можна знайсці і сярод галькі на пляжы, асабліва пасля шторму. Раніцай многія з адпачываючых з захапленнем займаюцца пошукамі гэтага каштоўнага каменя. Актыўным шукальнікам бурштыну стала і работніца Гомельскага скурзавода Соня Юзенкова. Яна была сфатаграфавана са сваімі сяброўкамі ў адзін з асабліва ўдачлівых дзён.













Аматарам-рыбалозам тут сапраўднае раздолле. Што толькі ні пападаецца ім на кручок! Асабліва добра ловіцца камбала. Трапляецца на вуду і такая каштоўная рыба, як вугор.

На здымку — група балельшчыкаў гэтага занятку: мінчане токар Юры Гарошка, будаўнік Васіль Лабунец і трактарыст Барыс Жаваранкаў.

Гэтым летам непадалёку ад Зеленаградска, на Калінінградскім заліве, праходзілі парусныя гонкі на пяршынства Расійскай Федэрацыі. Адпачываючыя маглі наглядаць імклівы бег яхтаў, смелыя манеўры рулявых. Каманда — пераможца гонак, у складзе рулявой Е. Мамонавай і матросаў Н. Мітрушынай і Т. Плышэўскай, запрасіла ў яхтклуб некалькіх дзяўчат з нашага дома адпачынку. Работніца фанерна-запалкавага камбіната імя Кірава Галя Крывіцкая, настаўніца з сяла Белауша Валянціна Будовіч і жыхарка горада Брэста Рая Пашына зрабілі прагулку на адной з лепшых яхт (глядзі фото на апошняй старонцы вокладкі). Яхтсменкі падрабязна расказалі аб будове суднаў, аб усіх асаблівасцях гэтага захапляючага віду спорту.

— Яхтклубу зусім не абавязкова размяшчацца на моры, — сказалі яны. — У мінулым годзе пераможцай аказалася каманда горада Молагава. У гэтым годзе другое месца занялі яхтсмены горада Свярдлоўска... Парусным спортам паспяхова можна займацца і на беларускіх азёрах!

...Так дзень за днём праходзіць адпачынак на ўзмор'і. А па вечарах, калі сонца хаваецца за гарызонтам, адпачываючыя зноў групамі збіраюцца каля мора, каб палюбавацца фарбамі захаду. Барвовыя прасторы мора расцілаюцца перад імі пазольна цямнеючы, нібы нехаця разлучаючыся з людзьмі нават на некалькі кароткіх гадзін летняга сну.

**Тэкст і фото**
**А. Дзітлава.**

Пятро ГЛЕБКА

# ПАЭТ-КОМСАМОЛЕЦ

З дня смерці Паўлюка Труса сёлета ўжо дваццаць пяць гадоў. А перада мною, — як, бадай, і перад усімі, хто яго ведаў у жыцці, — ён стаіць і цяпер нібы жывы. Гэта быў адметны чалавек. Невысокага росту, але мажны і каржакаваты, з буйнымі рысамі твару, з пышнымі кучаравымі валасамі, з шырока раскрытымі вачыма, ён адразу звяртаў на сябе ўвагу і запамінаўся назаўсёды.

Я ведаў яго яшчэ ў малыя гады. Мы сустрэліся з ім упершыню вучнямі першага класа Уздзенскага вышэйшага пачатковага вучылішча ў 1917 годзе. Ён быў жвавы, задорны і вельмі смяшлівы. Але вучыўся вельмі добра і асабліва любіў літаратуру. Помню, яшчэ ў сямігодцы, якая была адчынена замест ранейшага вучылішча, Паўлюк Трус пачаў спрабаваць у літаратуры свае асабістыя сілы. Першым яго творам быў верш, у якім з вялікім гумарам апісвалася вечарынка ў роднай яго вёсцы Нізок. Пачуццё гумару было вельмі ўласціва жывой, непасрэднай натуры Паўлюка Труса; яно праявілася і ў яго пазнейшых творах, у якіх ён высмейваў перажыткі старой вёскі.

Але ў натуры паэта была і другая, яшчэ больш выразная рыса — чысты і непасрэдны лірызм. Ён вельмі любіў народную песню, глыбока разумеў яе, валодаў сам нядрэнным голасам і з захапленнем спяваў у хорах — спачатку ў сямігодцы, а пасля ў педагагічным тэхнікуме. Народная песня паклала свой адбітак і на творчасць Паўлюка Труса.

Паэт памёр у дваццаціпяцігадовым узросце, папрацаваўшы ў літаратуры нейкіх пяць-шэсць год і толькі ступіўшы на парог свайго сапраўднага творчага росквіту. У яго творчасці шмат вельмі маладога і нясталага, але ўся яна адзначана глыбокай непасрэднасцю і скрозь у ёй гарać і свецяцца яркія іскрынкі сапраўднай паэзіі.

Паўлюк Трус прыйшоў у літаратуру вясковым юнаком. Ён быў цесна звязаны з совецкай рэчаіснасцю і, як комсамолец, прымаў непасрэдны практычны ўдзел у змаганні за новае жыццё. Гэтая практыка натхняла яго на творчасць і жывіла яго паэзію. Ён пісаў аб новай вёсцы, аб комсамольцах і піонерах, аб індустрыяльным будучым нашай краіны, якое для нас стала сучаснасцю. Паэт з любасцю паэтызаваў працу на разняволеных Кастрычнікам прасторах Беларусі. З высокародным і чыстым пачуццём ён спяваў аб маладосці, аб каханні да сваёй сяброўкі — совецкай дзяўчыны.

Вяршыняй творчасці Паўлюка Труса з'яўляецца яго паэма «Дзесяты падмурак», прысвечаная дзесяцігоддзю БССР. Сцісла, але з вялікай паэтычнай сілай, у яркіх лірычных вобразах у гэтай паэме пададзена жахлівае мінулае Беларусі і тая светлая будучыня, да якой наша краіна ўпэўнена рушыла пасля Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Прагнае імкненне ў будучыню, шчырая вера ў яе складаюць пафас гэтага твора, які хвалюе нас і сягоння, праз дваццаць пяць з лішнім год пасля напісання паэмы, калі наша сучаснасць далёка перасягнула ўжо мары паэта.

У творчасці Паўлюка Труса ёсць асобныя вершы, у якіх адчуваецца і нейкі незразумелы смутак. Яны з'явіліся або ў выніку цяжкіх асабістых перажыванняў паэта, звязаных са смерцю яго маці, або навеяны яму творчасцю іншых паэтаў, што ўласціва бывае многім маладым. Але гэтыя вершы ні ў якой ступені не могуць засланіць ад нас асноўны чысты і сонечны струмень паэзіі Паўлюка Труса.

Заўчасна памёршы паэт глыбока любіў наша баявое, бурлівае жыццё. У грудзях яго нястомна білася неспакойнае, імклівае, гарачае комсамольскае сэрца. Ён кідаўся ў грамадскую працу, як смелыя кідаюцца ў бурныя хвалі — усёй істотай. З роднай сваёй вёскі Нізок, куды ён паехаў з педтэхнікума на канікулы, Паўлюк Трус у студзені 1927 года пісаў мне:

«Думаў, напішу за гэты час, дык дзе там... Ячэйка на краю гібелі. Трэба не дапусціць да гэтага, так што працаваць прыходзіцца вельмі і вельмі шмат. Добра, калі кончу за ўвесь час легенду «Лірнік» і паэму «Развітанне». Я-ж кажу, зусім не маю часу. Вось нядаўна рабіў даклад аб «9 Студзені», а сягоння ладзім культвечар. Ставім суд над комсамольцам-п'яніцам. Мне далі ролю пракурора. Выпускаем вусную газету... А тут трэба яшчэ пазаймацца з дзецьмі з якую нядзельку, напісаць праект аб палепшанні школы, і, адным словам, часу ані-ні ты, божа мой, як кажуць людзі».

Паўлюк Трус не выбіраў у жыцці лёгкіх сцежак. Скончыўшы педтэхнікум, ён мог-бы застацца на працы ў Мінску, або паступіць ва універсітэт. Але пачуццё комсамольскага абавязку сказала яму іншае. У 1928 годзе ў заяве ў Беларускі дзяржаўны універсітэт Паўлюк Трус піша аб гэтым так:

«Па скачэнні Белпедтэхнікума я адразу-ж думаў пераводзіцца ва універсітэт, але з прычыны таго, што я, пачынаючы з народнае школы, вучыўся на працягу дванаццаці год, я і парашыў адзін год, а менавіта 1928-ы, ахвяраваць на грамадскую працу.

Я не захацеў заставацца ў Мінску і выехаў у Гомельшчыну, маючы на ўвазе тое, што Гомельшчына яшчэ толькі нядаўна далучана да Беларусі і там для мяне адчыніцца шырокае поле грамадскай дзейнасці».

Працуючы ў Гомелі ў рэдакцыі газеты, Паўлюк Трус часта выязджае ў вёску, чытае там даклады, выступае сярод сялянства з сваімі творамі, наладжвае работу комсамольскіх арганізацый, хатчытальнь, гурткоў моладзі. І робіць ён усё гэта з любасцю і захапленнем.

«Ведаеш, захапіўся я быў жыццём і працаю сучаснай вёскі і не хацеў нават адтуль выбірацца», — пісаў ён мне ў адным лісце з Гомеля.

Паўлюк Трус з маладым парывам імкнуўся ўсё зведаць і пазнаць. Ён шмат чытаў, слухаў публічныя лекцыі, любіў тэатр і цырк і бываў там пры кожнай магчымасці. «Я, няхай будзе табе вядома, люблю цырк», — піша ён з Гомеля. У студзені 1928 года паведамляе: «Цяпер у Гомелі знаходзіцца маскоўская трупа, якая ставіць у тэатры Калініна драмы і камедыі. Тэатр я наведваю стала». Праз некаторы час, у ліпені таго-ж года, ён піша зноў: «Зараз у Гомель прыехала маскоўская опера, і таму я амаль кожны дзень наведваю тэатр імя Калініна».

Заняты шматлікімі і самымі рознастайнымі справамі, Паўлюк Трус нястомна працаваў над сваімі творамі. Аб гэтым сведчыць не толькі колькасць напісанага ім за такі кароткі час літаратурнай працы, а і шматлікія варыянты яго твораў. Так, напрыклад, незакончаную паэму «Сірата Алеся» паэт пісаў на працягу ўсёй сваёй творчай дзейнасці, але ніколі не задавальняўся зробленым, а няспынна правіў і ўдасканальваў свой твор.

Здзейсніць мэту,
І золата дум
Падарыць на карысць Беларусі—

такую задачу ставіў сабе Паўлюк Трус і з маладым, комсамольскім парывам ажыццяўляў яе. І калі мы хочам назваць каго-небудзь з нашых паэтаў таго часу комсамольскім паэтам, дык у першую чаргу трэба назваць Паўлюка Труса. Талент яго не паспеў развіцца ва ўсёй сваёй сіле. Але ў лепшых творах паэта, у яго грамадскай дзейнасці знайшлі сваё выяўленне і настроі нашай моладзі дваццатых гадоў і яе высокародныя парывы і справы. Гэтым нам дорага шчырая пявучая паэзія Паўлюка Труса і сёння.



Паўлюк Трус.



Сяброўкі з «дзявочага гарадка» ў час адпачынку.

## Дзявочы гарадок

Ільнокамбінат — гарадок дзявочы. Мужчыны, як правіла, ля тэкстыльных машын не працуюць. Такая ўжо традыцыя.

Як толькі загучыць над пасёлкам магутны бас гудка, тысячы дзяўчат у сініх халатах і беласнежных касынках запаўняюць шырокія вуліцы заводскага гарадка. Усе спяшаюцца да прахадных варот, а адтуль разыходзяцца па фабрыках — ткацкай, прадзільнай, часальнай, аддзелачнай.

Залацісты беларускі лён праходзіць праз мноства складаных агрэгатаў, перш чым выйсці з іх першагатунковай, трывалай ніткай.

Роўнай шарэнгай на бетонных асновах выстраіліся прадзільныя машыны. Ля машын, не спяшаючыся, ходзяць прадзільшчыкі, ліквідуючы абрывы, правяраючы нацяжэнне нітак. Нядаўна на прадзільнай фабрыцы нарадзілася новае слова: двухбакоўшчыца.

Па нормах работніца павінна абслугоўваць адзін бок прадзільнай машыны — 76 верацён. Камсамолка Тацяна Махрачова, якая дасканала авалодала сваёй справай, першай пачала абслугоўваць абодва бакі агрэгата — 152 верацяны. Неўзабаве ў Тані Махрачовай з'явілася многа паслядоўнікаў.

Рытмічна, зладжана працуюць ткачыхі. Па норме кожная работніца павінна абслугоўваць па два станкі, але многія даўно абслугоўваюць па тры і нават па чатыры станкі. За мінулы год камбінат выпусціў звыш плана 1,8 мільёна метраў тканіны, пры гэтым сотні тысяч метраў — з пражы, якая была сэканомлена маладымі работніцамі.

Аршанскія тэкстыльшчыкі весела праводзяць свой вольны час. Гурткамі мастацкай самадзейнасці падрыхтоўваюцца цікавыя канцэрты. Драматычны гурток паставіў «Рэвізора» Н. В. Гогаля, «Русалку» А. С. Пушкіна, «Ірынку» Кузьмы Чорнага, «Разлом» Б. Лаўрэнёва і іншыя. Нядаўна для аршанскіх тэкстыльшчыц пабудаваны стадыён ручных гульняў, закладзены парк.

Г. Орша.

Н. АЛТУХОЎ.



## „Наш тэатр!“

Калі ў Магілёве, Мінску, Гомелі, Жытоміры, Бабруйску з'яўляліся афішы Брэсцкага тэатра, сярод моладзі разносілася вестка: «Прыязджае наш тэатр!»

Бадай ні адзін з тэатраў нашай рэспублікі не паставіў столькі спектакляў, якія глыбока закранаюць жыццё моладзі, як гэта робіць калектыў тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі. «Каля ляснога возера», «Старонка жыцця», «Брэсцкая крэпасць», «Гады вандравання», «Не называючы прозвішчаў», «Вясельнае падарожжа»... Ды і не толькі ў гэтых спектаклях маладыя гледачы знаходзяць адказы на многія пытанні, якія іх хвалююць.

На здымку: эпізод з вадэвіля В. Дыхавічнага «Вясельнае падарожжа», пастаўленага ўдзельнікамі агляду моладзі пад кіраўніцтвам заслужанага артыста рэспублікі Г. Волкава. У ролях — дыпламанты агляду Людміла Хрол (Зоя) і Барыс Уксусаў (Марк).

Фота артыста тэатра В. Клуннага.

## Дружба спартсменаў

На Мінскім стадыёне «Дынама» гэтым летам адбылося нямала іграў, якія прынеслі гледачам асаблівае задавальненне. Але бадай самай цікавай з іх з'явілася міжнародная таварыская сустрэча валейбалістаў. Два вечары падрад тысячы мінчан запаўнялі трыбуны стадыёна, каб палюбавацца майстэрскай ігрой каманды Кітайскай Народнай Рэспублікі і зборнай каманды сталіцы Беларусі.

Імклівая, прыгожая ігра сяброў-спартсменаў суправаджалася амаль бесперапыннымі апладысментамі. У першы вечар пераможцамі аказаліся госці. Жаночая каманда выйграла з лікам 3:2, мужчынская — з лікам 3:1. На наступны дзень мінчане дастойна адыграліся. Абедзве нашы каманды выйгралі сустрэчы з лікам 3:0.

Гасцям былі паднесены шматлікія букеты кветак і падарункі.

На здымку: гледачы віншуюць кітайскіх спартсменаў.

Фота Г. Масальскага і Д. Прэса.



## Медыцынская сястра

Перад самым акном гарэў вулічны ліхтар. За сцяной гуляў вецер, у вокны білі частыя кроплі дажджу.

У акно пастукалі. Дзяўчына падняла галаву ад кнігі і прыслухалася. Нехта падымаўся па прыступках ганка.

— Хто там?

— Я да вас, — пачуўся за дзвярыма ўстрывожаны голас.

— Саша мой захварэў...

Ада Навіцкая адчыніла дзверы і ўбачыла жанчыну. Тая нервова перабірала канцы цёплай хусткі.

— Не хвалюйцеся, зараз пойдзем. Усё будзе добра...

Саша ляжаў у пасцелі.

Сястра паслухала пульс — ён быў часты, таропкі. Без урача яна не магла ўстанавіць дакладны дыягназ хваробы. У хлопчыка, напэўна, было запаленне дыхальных шляхоў. Ада дала маці прафілактычныя сродкі, паабяцала заўтра раніцай зайсці да Сашы з урачом. Яна споўніла свае слова. Вопытны ўчастковы педзіятар другой гарадской дзіцячай бальніцы г. Мінска Е. І. Штэйнберг уважліва выслухала хлопчыка і пацвердзіла думку сястры наконт хваробы. Саша захварэў бронхапнеўманіяй. Яму было прызначана комплекснае лячэнне.

Шмат разоў у дзень заходзіла медыцынская сястра да Сашы. Яна лячыла хлопчыка не толькі медыкаментамі. Важна было і другое — каб маленькі Саша не баяўся «доктара», а любіў яго. На пасцелі ў Сашы Ада будавала піраміды з кубікаў, заводзіла аўтамабіль-самазвал. І вось хлопчык шмат разоў у дзень пытае ў маці, ці хутка прыдзе «цёця Ада». Саша хутка выздаравеў. «Цёцю Аду» ён запомніў надоўга.

Праз некалькі часу з Сашай, ужо здаровым, Адзе Навіцкай прышлося сустрэцца яшчэ некалькі разоў. Ён без слёз пераносіў прывіўкі: іх жа робіць «цёця Ада».

Аду Навіцкую — медыцынскую сястру — шчыра паважаюць жыхары яе ўчастка. Гэтую павагу дзяўчына заваявала старанняй работай. Медыцынская сястра стварыла на сваім участку значны санітарны актыў. Жанчыны-актывісткі сочаць за чыстатой двароў. З іх дапамогай усім дзецям зроблены папераджальныя прывіўкі.

Многа часу Ада Навіцкая аддае грамадскай рабоце. Нядаўна яе абралі сакратаром камсамольскай арганізацыі бальніцы.

П. НІКАЛАЕЎ.

— Цяпер хлопчык зусім здаровы! — гаворыць участковая сястра Ада Навіцкая сашынай маці — Ользе Іосіфаўне Дарошка.

Фота А. Гарэльчыка.



# НОВЫЯ КНІГІ

## Аповесць для дзяцей

Нядаўна Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла ў свет аповесць маладога беларускага пісьменніка Валянціна Зуба «Таямнічы надпіс». У ёй чытач знойдзе нямала цікавых мясцін, вострых момантаў.

Пяцікласнікі здалі апошні экзамен. У іх узнікае пытанне: чым заняцца летам? Адны з вучняў прапануюць зрабіць экскурсію на шклозавод, паваандраваць па сваім раёне. Другія-ж лічаць, што свой раён ім добра вядомы, таму лепш было-б зрабіць падарожжа куды-небудзь далёка, за межы раёна, напрыклад, у Белавежскую пушчу. Якраз у гэты момант да рабят падбягае іх аднакласнік Васілёк Крыловіч. Ён дзеліцца з імі цікавай навіной. На адным з бярвенняў, што прывезены на




будаўніцтва калгаснай электрастанцыі, ён заўважыў таямнічыя літары. Усе вучні зацікавіліся гэтым і пайшлі на электрастанцыю. Нягледзячы на тое, што літары аказаліся невыразнымі, хлапчукам удаецца ўсё-ж прачытаць словы: «Тут схавана праца». Піянеры вырашаюць адпілаваць частку бервяна з надпісам і па ёй адшукаць у лесе пень, а затым ужо знайсці і гэтую невядомую працу. Сваю думку яны выказваюць піянерважатай Зінаідзе Антонаўне. Тая падтрымлівае іх і высылае для адшукання пня трох лепшых піянераў — Толю, Васілька і Жэньку. Пасля двух дзён пошукаў гэтым хлапчукам нарэшце ўдалося адкапаць запісную кніжку партызана Казімірава. З яе яны даведваюцца, што сама праца знаходзіцца ў другім месцы, пад старым дубам. Яны аддаюць кніжку Віці Капусціну, якi прыехаў да іх, каб даведацца, чаму яны затрымаліся так доўга ў лесе.

Віця прыносіць кніжку піянерважатай, а трое хлапчукоў ідуць адшукваць працу. У гэты час усе астатнія піянеры сабраліся ў Зінаіды Антонаўны і просяць расказаць ім аб знойдзенай кніжцы, аб тым, хто такі быў Казіміраў. Піянерважатая расказвае.

Дзеянне аповесці тут пераносіцца ў часы Айчыннай вайны. У партызанскім атрадзе працаваў доктар Долахаў. Ён распрацаваў новы спосаб лячэння людзей ад сухот. Аб гэтым даведаліся фашысты. Якраз перад адлётам доктара на Вялікую зямлю ім удаецца захапіць яго і ягоную навуковую працу. Пачынаецца вострая барацьба. Праца пераходзіць то ў рукі партызан, то ў рукі фашыстаў. Але партызан Казіміраў, які што-небудзь мог ведаць пра рукапіс, загінуў. І канчатковы лёс працы людзям быў невядомы. Знойдзеная запісная кніжка высвятляе справу. Праца, значыцца, захавалася ў цэласці.

Тым часам трое піянераў — Толя, Васілёк і Жэнька — падыходзяць да дуба. Яны заўважаюць каля яго дзве постаці. Аказваецца, гэта здраднікі Радзімы — Антэк і яго брат, якія перайшлі граніцу, каб адкапаць працу. Калісьці, у 1944 годзе, пры ўцёках за граніцу яны не паспелі захапіць яе з сабой і таму закапалі яе пад дубам. Гэта бачыў смяротна ранены Казіміраў. Паведаміць людзям аб працы ён не мог і таму паспеў толькі выразаць на дрэве той «таямнічы» надпіс.

Толік і Васілёк застаюцца сачыць за бандытамі, Жэнька-ж бяжыць на пагранічную заставу.

Такім чынам, ворагі аказваюцца злоўленымі. Каштоўная навуковая праца выратавана. За выкананне даручэння атрада піянерам аб'яўляецца падзяка.

Як бачна, аўтар здолеў умела пабудаваць сюжэт аповесці і гэтым дасягнуў таго, што твор чытаецца з цікавасцю.

Усё-ж у аповесці ёсць шмат недапрацаван. Вобразы піянераў атрымаліся цьмянымі, неакрэсленымі. Фабула аповесці не ідзе ад вобразаў, не выцякае з іх, сустракаюцца пабочныя здарэнні, падзеі, шмат выпадковасцей. Гэта ў многім псуе цікавую аповесць для дзяцей.

**Ан. КЛЫШКО.**




**Выпадак**

Мал. С. Раманава.

Лёгкі ветрык ледзь калыша лісты надрэчных кустоў. Невялічкая затока, здаецца, спіць: яе люстраная паверхня спакойная. Нерухома застыла на вадзе белая пырынка паплаўка. Янка, хлапчук гадоў пад трынаццаць, бялявы, з даўно нястрыжанымі валасамі, маўкліва сядзіць пад лазінай, не зводзячы насцярожанага позірку з паплаўка.

З-за павароту на чаўне з'яўляецца даўнішні сябра Янкі, шчыры аматар рыбнай лоўлі Васіль. Заўважыўшы Янку, ён складае рупарам далоні, моцна крычыць:

— Ого-го-го, Янка, як рыбка ловіцца?

— Чаго крычыш?! Распудзіш,— злуецца Янка, шморгае ўверх кручок з прыманкай і зноў закідвае яго.

Васіль імкліва накіроўвае човен у затоку, пад'язджае да берага, зазірае ў банку. У ёй — штук пяць з палец галаўлёў.

Некалькі хвілін абодва маўчаць. Нарэшце, неспакойнаму Васілю надакучае такая лоўля. У гэты час, нібы знарок, на самай сярэдзіне рэчкі, на быстрачку, раптам усплёсквае дужая рыбіна, за ёй другая.

— Давай, Янка, паспрабуем рыбу на быстрачку з чаўна лавіць, — прапануе Васіль.

— А як ты човен утрымаеш на месцы? — пытаецца Янка.

Васіль на хвіліну змоўк, а потым узрадавана загаварыў.

— Ну і дзівак! Возьмем камень, прывяжам яго на вяроўку, вяроўку прывяжам да чаўна і будзем стаяць, як на якары.

І Васіль тут-жа бяжыць шукаць патрэбны камень.

— Янка, — крычыць ён праз некаторы час, — дапамажы!

— Вельмі вялікі камень, — моршчыцца Янка.

— Затое добра будзе човен трымаць, — адказвае Васіль. — Бярыся, лепшага не знойдзеш.

Яны ўзвальваюць камень на човен. Задаволеныя сваёй працай, закурваюць.

— Вяроўка малаватая, — задумліва кажа Янка.

— Нічога, мы спачатку вяслом глыбіню памераем, — гаворыць Васіль.

Даплыўшы да намечанага месца, Васіль апусціў вясло ў ваду. Кончыкам яно дакранулася да дна.

— Спіхвай камень, — кажа Васіль.

Янка ўпіраецца рукой у камень, але той не паддаецца.

— Ну, што ты марудзіш? — крычыць Васіль. — Нас-жа адносіць на глыбокае месца.

— Каб ты спруцянела! Трэба-ж было вяроўцы за вуду зачапіцца, — мармыча Янка.

Васіль старанна грабе вяслом, каб лодку не знясло на глыбокае. Янка адчапіў вяроўку і са злосцю штурхнуў камень. Камень гулка бухнуўся, узняўшы слуп вады.

...Калі ўзнятыя пырскі пападалі ў ваду, Васіль быў ужо ля берага, а Янка, цяжка выкідваючы з вады рукі, круціў галавой, стараючыся ўбачыць згубленую шапку. З вады быў відзен толькі нос чаўна. Човен тырчма нерухома стаяў на якары.

**В. ПАТАПЕЙКА,**
**вучань IX класа Асіповіцкай сярэдняй школы.**



# МАСКВА— ХАРКАЎ— КІЕЎ— МІНСК— МАСКВА



**Шматдзённая веласіпедная гонка — адно з самых цікавых спартыўных спаборніцтваў гэтага лета.**

На здымках: **1. Да Масквы засталося 680 кіламетраў! 2. Майстар спорту Р. Чыжыкаў, які другі год падрад заваёўвае званне чэмпіёна СССР па шматдзённых велагонках. Увесь маршрут, які складаў 2 606 кіламетраў, пройдзены ім за 74 гадзіны 8 мінут 28 секунд. 3. Каманда Цэнтральнага спартыўнага клуба Міністэрства Абароны СССР, пераможца гонкі;** злева — **трэнер каманды заслужаны майстар спорту Ф. Тарачкоў.**

Фота М. Мінковіча і А. Дзітлава.







